


Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

31 студзеня 2014 года №5 (979)

Генадзь Каханоўскі
Ён падарыў землякам гісторыю
старонка 2



Месяцавы каляндар садавода і агародніка
Першае паўгоддзе 2014 года
старонка 20-21

Трасянку ўзаконяць? с. 18

Страшныя тайны вёскі Старадубава с. 19

З-за антысанітарыі спынілі вытворчасць хлеба ў Ашмянах. с. 3

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Вызначылі настаўніка года

**МЯДЗЕЛ.** Заключны этап конкурсу прафесійнага майстэрства педагагічных работнікаў "Настаўнік года Мядзельшчыны-2013" прайшоў 24 студзеня. Удзельнічалі сем педагогаў. Некалькі выпрабаванняў для іх было ўжо раней – у тым ліку, урок у незнаёмым класе. У фінале паказвалі творчую самапрэзентацыю, прадстаўлялі досвед, праводзілі міні-ўрок. У выніку перамагла настаўніца англійскай мовы гімназіі-інтэрната Мядзела **Аксана Міхневіч**. Другое месца – у настаўніцы выяўленчага мастацтва Мядзельскай СШ №1 **Марыны Новак**, а трэцяе заняла настаўніца хіміі Нарацкай СШ №1 **Анастасія Кумішча**.

### Пачынаецца галасаванне за новую эмблему ФК "Маладзечна"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Галасаванне пачнецца першага лютага. Усе дасланыя варыянты будуць падзеленыя на дзве групы па прынцыпе аўтарства, а само галасаванне пройдзе ў два этапы. "Першы этап пройдзе з першага па чацвертага лютага. Па выніках гэтага галасавання ў фінальны этап пройдуць два варыянты эмблемы, якія набяруць найбольшую колькасць балаў. З пятага па сёмага лютага з гэтых двух варыянтаў і будзе выбраная эмблема, якая стане афіцыйнай эмблемай клуба", – патлумачыў "Рэгіянальнай газеце" арганізатар конкурсу **Дзмітры Рухлевіч**. Пакінуць свой голас за эмблему, якая спадабалася, можна на старонцы групы ФК "Маладзечна" "УКантакце" vk.com/fcmolodechno.

### Прысвяцілі музыку Залессю і Агінскаму

**СМАРГОНЬ.** Мінскі гурт Like a Gossamer стварыў альбом па матывах легендаў і славутасцяў Беларусі. Дыск "Kliatva viernasci" ("Клятва вернасці") выйшаў 28 студзеня. "У альбоме слухач знаёміцца з маладым этнографам-фалькларыстам, які вандруе па Беларусі, гутарыць з людзьмі і запісвае іх аповеды. Альбом працягвае рамантычную традыцыю, закладзеную Янам Баршчэўскім у "Шляхціцы Завальні", – распавядае лідар гурта **Дзяніс Голін**. Сярод кампазіцый – "Залессе" і "Недапісаны раманс" у гонар Агінскага і яго радзімы.

**Аддзел інфармацыі.**



# Хацелі б такі від з акна?

**МАЛАДЗЕЧНА. Менавіта такі пейзаж бачаць жыхары вуліцы Будаўнікоў у Насілаве.**




Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Камунальная тэхніка з-за маразоў не паспявала забраць смецце.

Кантэйнеры са смеццем размешчаныя сярод прыгожых загарадных дамоў. Яны і так не вельмі падабаюцца тым, хто жыве непадалёк, а калі з іх несвоечасова вывозяць смецце, становіцца проста агідна.

У рэдакцыю "РГ" патэлефанаваў **Уладзімір Анатольевіч**, які жыве ў адным з дамоў каля кантэйнераў. Ён абурайся, што не вывозяць смецце, што яго сабралася не за адзін тыдзень:

– Тыдні тры тут не вывозілі смецце, і наглядзіце, што робіцца! Я гаварыў з суседзямі – усе моцна незадаволеныя. Калі яно не вывозіцца, пачынаюць лазіць каты, сабакі. Жанчыны наваат баяцца хадзіць каля сметніц. У суседзяў двое дзяцей 10-12 год, ходзяць у школу гэтай дарогай. Сабакі зграямі па 5-7 носяцца – вядома, страшна. Гэта ж цэнтр пасёлка – і каб так загаджана было! Кантэйнеры трэба было б паставіць бліжэй да цяпліц.

Жыхар Насілава дадае: у тым, што ў пасёлку не заўсёды чыста, часткова вінаватыя і самі людзі. Не ўсе разумеюць сваю адказнасць і не ўсе лічаць патрэбным акуратна выкідаць смецце.

### Смецце вывозяць – новая праблема

Жыхарка Насілава **Ірына Мечыславаўна**, падышоўшы да сметніц, у першую чаргу паспачувала тым, хто жыве побач. Бо смецце параскідана каля кантэйнераў, ветрам яго разносіць па вуліцы, найбольш прыбівае да агародчыкы суседняга дома. Здаецца, пабудаваў прыгожы дом, жывеш на прыродзе, а з дому такі краявід.

Ірына Мечыславаўна заўважыла, што калі смецце не вывозяць, то гэта адна праблема. А калі вывозяць – з'яўляецца іншая:

– Вось толькі што забралі на суседняй вуліцы. І вы бачыце, што прыбіральшчыкі пасля сябе пакінулі? Там жа паўсюль параскідана. Няўжо іх не вучаць, як трэба прыбіраць? І тут тое самае будзе. Дык цяпер зіма, не так відаць. А вось паглядзіце, што вясной будзе. Для чаго было ставіць кантэйнеры пасярод вуліцы, можна ж у канцы размясціць.

Жанчына падзялілася здагадкай, што прычына перапоўненых сметніц не толькі ў тым, што камунальнікі несвоечасова забіраюць смецце:

– Многія дамы не ўведзеныя ў эксплуатацыю, а людзі жывуць. Маючы кватэру ў горадзе, за новае жытло не хочуць плаціць падатак. Правялі б рэйд – знайшлі б такіх. Калі вываз разлічаны на 20 дамоў, а жывуць яшчэ ў дзесяці, ясна, што смецця будзе больш. Ёсць жа нормы па колькасці жыхароў.

### Як перанесці сметніцу

Дырэктар філіяла "Раённая ЖКГ" УП "Камунальнік" **Валянцін Апяцёнак** патлумачыў сітуацыю:

– Нормы па вывазе ёсць. Мы пастаянна сочым, ці заключаны дагавор на вываз смецця. Калі ў жылым доме не заключаны – заключаем. Але гэта жыццё, здараецца, што чалавек жыве, але дом не ўлічаны ў вывазе смецця. Такое вырашаецца. Сапраўды, у Насілаве мы не змаглі вывезці смецце па графіку. Маразы адыгралі сваю ролю. Камунальная тэхніка падводзіць, палова яе стала.

Наконт размяшчэння кантэйнераў Валянцін Рыгоравіч распавёў, што месца ўзгодненае з мясцовай уладай, экалагічнай службай і Цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі. Яно адпавядае нормам па адлегласці да жылых дамоў і іншым.

**Калі жыхары не задаволеныя размяшчэннем кантэйнераў, яны могуць ініцыяваць перанос.**

Але калі жыхары незадаволеныя, дастаткова проста напісаць заяву ў "Камунальнік". Спецыялісты яе разгледзяць і адкажуць, ці магчыма гэта.

### Прыбіральшчыкі павінны падтрымліваць чысціню

Валянцін Апяцёнак адказаў і наконт таго, ці павінны прыбіральшчыкі смецця пакідаць пасля сябе зону кантэйнераў чыстай:

– Гэта ўваходзіць у іх службовыя абавязкі. Яны мусяць падтрымліваць кантэйнеры ў належным выглядзе, адпаведным санітарным стане. Як і іншыя аб'екты, сметнікі павінны выконваць санітарныя нормы. Тут прычына, на жаль, у чалавечым фактары.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Ад рэдакцыі.** У час здачы газеты ў друк чытач Уладзімір Анатольевіч патэлефанаваў у рэдакцыю і падзякаваў. Паводле яго слоў, у сераду не толькі забралі смецце, але і чыста прыбралі тэрыторыю каля кантэйнераў.

# Генадзь Каханоўскі – памяці выток, наш гонар і сумленне...

**МАЛАДЗЕЧНА. Вечар памяці Генадзя Каханоўскага, гісторыка, пісьменніка, краязнаўцы, адбыўся 24 студзеня ў Палацы культуры.**

У зале ў гэты вечар сабраліся людзі, чый лёс так ці інакш быў звязаны з Генадзем Каханоўскім: яго сям'я, былыя калегі, вучні.

Быццам сам Генадзь Аляксандравіч прысутнічаў на вечары, гледзячы на ўсіх прысутных з цудоўнага партрэта работы **Юрыя Герасіменкі-Жызнеўскага.**

У гэты вечар гучалі песні і вершы-прысвячэнні Генадзю Каханоўскаму. Прысутныя ў зале ўспаміналі яго не толькі як вядомага пісьменніка і гісторыка, але, перш за ўсё, як чалавека, якім быў Генадзь Аляксандравіч, якім ён запомніўся людзям, што жылі і працавалі з ім поруч.

**Наталля Сухая**, супрацоўніца краязнаўчага музея, памятае Генадзя Аляксандравіча яшчэ тады, калі ён быў яе класным кіраўніком і настаўнікам гісторыі.

– Урокі Генадзя Аляксандравіча былі незвычайнымі і запамінальнымі. Ён заўсёды імкнуўся як мага хутчэй закончыць тэму, што была ў падручніку, каб расказаць нам, дзецям, пра гісторыю роднай Маладзечаншчыны. Сёння магу сказаць, што ўрокі Генадзя Аляксандравіча ў многім вызначылі мой лёс. Я таксама стала настаўніцай.

Ролю Генадзя Каханоўскага ў лёсе Маладзечаншчыны цяжка пераацаніць.

Арганізатар вечара **Ларыса Сысун** узгадала, што дзякуючы Генадзю Каханоўскаму ў маладзечанцаў цяпер ёсць дата – 1388. Менавіта Генадзь Каханоўскі знайшоў гэтую дату, якую прынята лічыць першым упамінаннем пра горад. Шматлікія экспанаты ў краязнаўчым музеі таксама з'явіліся намаганнямі нашага краязнаўцы.

– Не ведаю, якімі праўдамі ці няпраўдамі Генадзь Аляксандравіч прывёз у Маладзечна знакаміты слуцкі пояс.

Акрамя таго, ён прывёз у музей скрыпку з маёнтка Агінскага, шматлікія старадрукі.

Былая суседка Генадзя Каханоўскага, цяпер галоўны рэдактар часопіса "Алеся" **Тамара Бунто,** успамінала Генадзя Аляксандравіча як чалавека, які заўсёды некуды спяшаўся. І з нязменным партфелем у руках.

На вечары прысутнічаў і сын Генадзя Каханоўскага **Аляксандр КахаНоўскі.** Ён адзначыў, што яму вельмі прыемна, што пра справу бацькі не забываюцца ў Маладзечне, што ўшаноўваюць яго памяць.

Пра Генадзя Каханоўскага можна гаварыць многа, але больш дакладна, чым паэт **Вячаслаў Шнуркевіч**, пра яго сказаць немагчыма:

*Ён праз жыццё*
*нялёгкі крыж пранёс.*
*Рабіў адну,*
*але святую справу –*
*Ён клапаціўся*
*пра Айчыны лёс,*
*Вяртаў зямлі*
*яе былую славу.*

**Наталля ТУР.**




Генадзь Каханоўскі. Партрэт работы мастака Юрыя Герасіменкі-Жызнеўскага.

## Падарыў землякам гісторыю

Сярод знакамітых людзей Маладзечаншчыны вылучаецца Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі. Ён здзейсніў подзвіг, падарыўшы сваім землякам гісторыю.

Нарадзіўся Генадзь Аляксандравіч 8 студзеня 1936 года ў вёсцы Дамашы, якая прытулілася да самага горада Маладзечна. Вучыўся ў Лебедзеўскай сярэдняй школе, аддаў належнае армейскай службе, а потым быў гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага педагагічнага інстытута. Веды ў галіне гісторыі Беларусі і Маладзечанскага краю значна паглыбіліся і тады, калі Генадзь Аляксандравіч працаваў у Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне. Тут ён прайшоў шлях ад навуковага супрацоўніка да дырэктара музея, абараніўшы ў 1979 годзе кандыдацкую дысертацыю па тэме "Станаўленне археалогіі і гістарычнага краязнаўства Беларусі ў эпоху феадалізму". Фонды музея ўзбагаціўся шматлікімі экспанатамі, сярод якіх ёсць выключна рэдкія: 15 старадрукаў (кніг), "Уніяцкі служэбнік" 1740 года выдання, "Вопіс на карысць Хоўхлаўскай царквы", зроблены князем Станіславам Кішкам (1607), напісаны на старабеларускай мове (лацінкай), "Тлумачэнні да твораў Цыцэрона" (1762; Нясвіжская друкарня Радзівілаў) і інш.

1982 год быў для нашага навукоўца новай прыступкай у пазнанні гісторыі свайго народа – яго запрасілі ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі.

Крыху пазней Генадзь Аляксандравіч узначальвае ім задуманы і створаны аддзел, які займаецца пытаннямі краязнаўства, музеязнаўства і бібліятэказнаўства ў асветным цэнтры імя Францішка Скарыны. Накопленыя веды, вялікі жыццёвы досвед даюць магчымасць падняцца яшчэ на адну прыступку вышэй у навуцы. У 1982 годзе Г.А.Каханоўскі абараняе доктарскую дысертацыю на тэму "Гісторыя вывучэння культуры Беларусі ў канцы 18 – пачатку 19 стагоддзя".

Усё, што знаходзіў Генадзь Аляксандравіч у розных музеях і архівах, што сумеў выкапаць з глыбіні стагоддзяў пра родны край, спяшаўся вынесці на старонкі часопісаў, газет, каб падзяліцца з людзьмі гістарычнымі навінамі. Талент яго як пісьменніка рос з кожным днём. Яго пяру былі падуладны вобразныя замалёўкі куткоў маладзечанскай зямлі, гістарычных падзей, вобразаў цікавых людзей. Ім напісана больш за дзесяць кніг. Адна з першых, "На запаветнай зямлі", была прысвечаная нашаму песняру Янку Купалу. Пра знаходжанне Максіма Багдановіча ў фальварку Ракуцёўшчына ўлетку 1911 года Генадзь Аляксандравіч расказаў на старонках кнігі "У родным краі". Ім напісаны кнігі "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI – XIX ст.", "Адчыніся, таямніца часу", "Повязь часоў", "А сэрца ўсё імкне да бацькоўскага краю", "Прадвесне навукі", "Руплівец нашай старасветчыны" (з сынам А.Г.Каханоўскім), "Маладзечна", "Вілейка".

Яго пяру належыць каля тысячы публікацый, шмат артыкулаў у энцыклапедычных выданнях. З поўным правам Генадзь Аляксандравіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Сёння, калі маладое пакаленне прагна вывучае гісторыю, яго кнігі сталі на ўзровень падручнікаў. Сапраўдны патрыёт спяшаўся не толькі адкрыць таямніцы гісторыі, але і ўвекавечыць іх памяць. Сёння Маладзечаншчыну можна назваць музеем пад адкрытым небам, бо тут каля двухсот помнікаў. Шматлікія з іх устаноўлены па ініцыятыве і пры непасрэднай дапамозе Генадзя Аляксандравіча.

Ён пайшоў з жыцця 15 студзеня 1994 года, пакінуўшы нам сваю працу, свае памкненні, сваё сэрца.

На Стара-Віленскім шляху, каля вёскі Мясата, устаноўлены помнік гэтай старажытнай дарозе. Вялікія камяні-валуны трымаюць на сваіх грудзях пліты з імёнамі знакамітых людзей, якія нарадзіліся ці звязалі свой лёс з Маладзечаншчынай. Тут ёсць імя нашага земляка, якім мы ганарымся, – Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага.

**Загаловак "РГ".**
**(Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка горада Маладзечна і Маладзечанскага раёна – Мн.: БелЭн, 2002. с.646-647.)**

● СЛУЖБА 101

# Цягнік тушыць пажары




Выратавальнікі дэманструюць сваё ўменне падчас вучэнняў.

**МАЛАДЗЕЧНА. Што такое пажарны цягнік, якое значэнне ён мае ў структуры МНС, распавёў начальнік цягніка Андрэй Шыман.**

Сам пажарны цягнік, мяркую, бачылі ўсе, хто хоць раз ехаў да станцыі Маладзечна па чыгунцы. Пяць чырвона-белых вагонаў нязменна дзяжураць непадалёк ад канцавога прыпынку.

**Летась пажарны цягнік з Маладзечна выязджаў на восем здарэнняў. Ён можа рушыць на здарэнні, якія адбыліся на адлегласці да 100 кіламетраў.**

– Нашаму цягніку ўжо больш за 50 гадоў. Канешне, штогод яго мадэрнізуем, набываем новае абсталяванне. У мінулым годзе набылі ванну для перапампоўкі небяспечных грузаў.

Пажарны цягнік мае вагон-помпавую станцыю, дзве цыстэрны з вадой, вагон з нейтралізатарамі, каб ліквідаваць наступствы некаторых небяспечных грузаў. Сярод нейтралізатараў у нас ёсць мяшкі з мелам, содай, сульфатам натрыю. Ёсць і пустая цыстэрна, каб у яе можна было перапампаваць вадкасць, якая выліваецца з пашкоджанай цыстэрны.

– Бывае, аварыі на чыгунцы здараюцца там, куды аўтамабілі МНС даехаць не могуць. Тады наш цягнік проста незаменны. Але, як вы бачыце, свайго цеплавоза ў нас няма. Таму, калі паступае паведамленне аб аварыі, цеплавоз можа быць зняты з любога састава, нават і з пасажырскага, – прагаварвае Андрэй Шыман.

**У дзве цыстэрны, што ўваходзяць у склад пажарнага цягніка, умяшчаецца 100 тон вады. Калі прымаць ванну кожны дзень, гэтай колькасці хапіла б на два з паловай гады.**

У нашым атрадзе сёння працуе 20 чалавек, усе яны добра падрыхтаваныя спецыялісты. Навічкоў у нас амаль няма. Тыя, хто прыходзіць працаваць, застаюцца да самай пенсіі.

Не магу не задаць правакацыйнае пытанне:

**– А калі раптам загарыцца сам пажарны цягнік?**

– Да такога жыццё нас не рыхтавала (жартуе). А калі сур'ёзна, цягнік абсталяваны ўсім неабходным: ад іголкі да самых сучасных электрапомпаў. І вогнетушыцелі таксама ў нас прадугледжаныя.

Супрацоўнік аварыйна-выратавальнага цягніка выратавальнік **Дзмітры Мястоўскі дадае.**

– У нашых спецкасцюмах можна праседзець у салянай кіслаце восем гадзін. Калі хочаце, магу даць прымераць.

Мераць я, канешне, не стала, але на вобмацак касцюм вельмі шчыльны.

**– Даводзілася бываць і ў такіх сітуацыях?**

– Не, дзякуй богу, не. Пераважна мы прымаем удзел у вучэннях. Хай так і будзе заўсёды.

**Наталля ТУР.**

● ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Часова спынілі вытворчасць хлеба

**АШМЯНЫ. Прычынай такога катэгарычнага рашэння стала, мякка кажучы, нячыстая карціна ў цэхах на мясцовым хлебазаводзе.**

Там, дзе замешваюць цеста і пякуць хлеб, жывуць птушкі, а са сродкаў барацьбы з мухамі, якім тут, па ўсёй бачнасці, раздолле, – толькі клейкая стужка. Падобна на тое, тут тэрмін "мадэрнізацыя" застаецца ўсяго толькі словам. Як дапусцілі такое, хто цяпер будзе пячы хлеб для жыхароў Ашмянаў? У сітуацыі разбіраўся **Дзмітрый Смірноў.**

Зварачны апарат – сведчанне таго, што мадэрнізацыя зацягнулася, – знаходзіцца ўсяго ў трох кроках ад месца, дзе выпякаюць хлеб. Але нават той факт, што весці рамонт у такой блізкасці ад вытворчасці – парушэнне ўсіх санітарных нормаў, не прыцягвае правяраючых. І не таму, што не бачаць. Акрамя гэтага тут ёсць на што звярнуць увагу.

Аднак патрэсканай пліткай і формамі для выпечкі, якія ўжо прагарэлі, сітуацыя ў гэтым цэху не абмяжоўваецца.

Звычайны дзень на хлебазаводзе ў Ашмянах. Пакуль работнікі старанна выпякаюць хлеб і булачкі, ім увесь час прыходзіцца адмахвацца ад дакучлівых мух і вераб'ёў.

Апошнім тут хіба што не хапае гнёздаў.

Па словах начальніка аддзела прамысловасці мясцовага філіяла спажывутаварыства, на замену і ўцяпленне столяў летась яны выдаткавалі 200 мільёнаў рублёў. Усяго ж за 2013 на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы ў Ашмянах выдзелілі больш за 7 мільярдаў рублёў. З іх на мадэрнізацыю гэтага хлебазавода – каля 500 мільёнаў. У тым жа, што на хлеб, у прамым сэнсе слова, садзяцца мухі, аказваецца вінаватым "чалавечы фактар".

Ашмяны, як заяўляюць кантралёры, – не адзіная вытворчасць, дзе эксперты знайшлі небяспеку для здароўя людзей. Канвеер спынілі ў Мастах і Карэлічах.

Гэта апошняя партыя хлеба, якую спешна заканчваюць работнікі. Згодна з загадам абласной санэпідстанцыі, пакуль санітарныя нормы тут не прывядуць у парадак, з печы не павінна выйсці больш ні адна буханка. Да гэтага часу хлеб у Ашмяны будуць завозіць з суседніх раёнаў.

**Паводле belarus24.by.**

| Курсы валют НБ РБ | 23.01 руб. | 30.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 590,00 | **9 630,00** |
| Еўра | 13 000,00 | **13 160,00** |
| Злоты | 3 117,03 | **3 138,60** |
| Літ | 3 761,45 | **3 814,92** |
| Расійскі рубель | 283,00 | **278,50** |
| Грыўня | 1 140,31 | **1 133,61** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9560/9620 | **9590/9650** |
| Еўра | 12980/13040 | **13080/13180** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.01 | 29.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | У сувязі з моцным маразам павільён зачынены. | **107500** |
| **Сасіскі**, 1 кг | | **46000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | | **28800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 85000 | **86000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **93500** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9000 | **10500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8300** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13500 | **13500** |
| **Алей** | 12500 | **14500** |
| **Маянэз**, 200 г | 6000 | **4200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7700 | **7500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 10000 | **9750** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6500 | **6150** |
| **Капуста**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Морква**, 1 кг | 5000 | **4900** |
| **Буракі**, 1 кг | 4000 | **-** |
| **Лімоны**, 1 кг | 21500 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15500 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 15500 | **12000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 23000 | **26000** |
| **Агуркі**, 1 кг | - | **26000** |
| **Перац**, 1 кг | 33000 | **28000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 14500 | **20000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12500 | **11800** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8000 | **9500** |
| **Грушы**, 1 кг | 18500 | **18650** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | **13500** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 42000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | - | **-** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **-** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Вярнуць працу можна



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Калі наймальнік незадаволены працай работніка, недастатковую кваліфікацыю давядзецца даказаць.

**МАЛАДЗЕЧНА. Што рабіць, калі працадаўца звольніў з-за недастатковай кваліфікацыі?**

Менавіта з такой прычыны звольнілі работніка адной з арганізацый раёна. Аднак работнік не пагадзіўся са звальненнем і аспрэчыў яго ў судзе.

Наймальнік абгрунтаваў звальненне так: работнік не быў падрыхтаваны да праверкі ўліку грошай, ухіляўся ад праверкі. Наймальнік таксама заўважыў парушэнні ў дакументах і пры выкананні службовых абавязкаў. Аднак якія менавіта парушэнні заўважыў, на ўдакладняе.

Падчас судовага паседжання наймальнік адзначыў, што работнік атрымаў па даверанасці маёмасць, якую потым не перадаў, як патрабавалася.

Суд пастанавіў задаволіць просьбу работніка і аднавіць яго на працы. Наймальнік павінны выплаціць яму сярэдні заробак за час вымушанага прагулу.

У абгрунтаванні рашэння суд указаў, што падставай для звальнення стала няякаснае выкананне службовых абавязкаў, а таксама парушэнне працоўнай і выканаўчай дысцыпліны. Разам з тым, пералічаныя прэтэнзіі не даюць бясспрэчных падстаў сцвярджаць, што работнік не валодае дастатковымі навыкамі і адукацыяй.

### Кваліфікацыю пацвярджае ВНУ

Суд зрабіў выснову, што дзеянні работніка наўмысныя і ён вінаваты. Але наймальнік не прымаў меры дысцыплінарнага ўздзеяння. Да таго ж наймальнік не правёў атэстацыю работніка, каб упэўніцца ў яго агульнай і спецыяльнай падрыхтоўцы. Ён прыняў да ўвагі, што звольнены мае вышэйшую эканамічную адукацыю. Дыплом ВНУ дазваляе сцвярджаць, што работнік валодае дастатковай падрыхтоўкай.

Суду не прапанавалі ніякіх службовых запісак аб знойдзеных недапаведнасці і памылках, актаў праверак кантралюючых органаў ці аўдытараў.

Прынятае судом рашэнне прайграўшы бок не абскардзіў, яно ўступіла ў законную сілу.

Гэты прыклад пацвярджае, што закон варта прымяняць правільна, рознае тлумачэнне закона немагчымае. Нягледзячы на парушэнні, наймальнік своечасова на іх не адрэагаваў, а пасля звольніў работніка. У выніку яму давялося вярнуць чалавеку пасаду і выплаціць кампенсацыю за парушэнне працоўных правоў.

### За што можна звольніць?

Адно з абгрунтаванняў скасавання працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка – неадпаведнасць работніка займаемай пасадзе з-за недастатковай кваліфікацыі (пункт 3 артыкула 42 Працоўнага кодэкса). Спыненне дагавора з такой прычыны магчыма тады, калі віны чалавека ў недапрацоўках няма.

Калі чалавек мае прафесійную адукацыю, кваліфікацыю, навыкі і досвед працы – гэта дазваляе выконваць працу належным чынам. Калі ж чалавек выконвае яе няякасна па сваёй віне, то разглядаць магчымасць скасаваць дагавор па гэтай прычыны нельга. У такім выпадку ўплываюць іншыя прычыны, напрыклад, з-за сістэматычнага невыканання без уважлівых прычын сваіх абавязкаў.

Недастатковую кваліфікацыю неабходна пацвердзіць аб'ектыўнымі дадзенымі і праўдзівымі доказамі: службовымі і дакладнымі запіскамі, актамі спісання браку, актамі праверак, заключэннямі спецыялістаў і іншымі дакументамі. Калі няма доказаў аб недастатковай кваліфікацыі, звольненага работніка адновяць на працы на яго пасадзе.

**Дзяніс ГІРЛОЎСКІ,**
**памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

ПАРАДЫ

# Як сябе паводзіць у маразы

## Рэкамендацыі МНС

**Выратавальнікі нагадваюць некалькі простых правілаў, як пазбегнуць пераахаладжэння і абмаражэння на моцным марозе.**

**Не піце спіртнога.** Алкагольнае ап'яненне выклікае вялікую страту цяпла, пры гэтым ствараецца ілюзія камфорту.

**Не курыце на марозе.** Курэнне памяншае перыферыйную цыркуляцыю крыві, ад чаго хутчэй мерзнуць рукі і ногі.

**Насіце свабодную вопратку.** Гэта спрыяе нармальнай цыркуляцыі крыві. Апранайцеся як "капуста", пры гэтым паміж пластамі адзення заўсёды ёсць праслойкі паветра, якія выдатна ўтрымліваюць цяпло. Верхняе адзенне абавязкова павінна быць непрамакальным. Цесны абутак, адсутнасць вусцілкі, сырыя шкарпэткі, і вам хутка стане холадна.

Асабліва ўважлівым да абутку трэба быць тым, у каго часта пацеюць ногі. У боты трэба пакласці цёплыя вусцілкі, а замест баваўняных шкарпэтак надзець шарсцяныя – яны ўбіраюць вільгаць. Не выходзьце на мароз без рукавіц, шапкі і шаліка. Лепшы варыянт – рукавіцы з вільгаценепрымальнай і непрадзімальнай тканіны з футрам ўнутры. Шчокі і падбародак варта абгарнуць шалікам.

У халоднае надвор'е перад выхадам на вуліцу адкрытыя ўчасткі цела памажце спецыяльным крэмам.

На марозе пазбягайце кантакту голай скуры з металам. Не насіце на марозе металічных упрыгожванняў – пярсцёнкаў, завушніц і г.д. Метал астывае значна хутчэй за цела, і магчыма "прыліпанне" яго да скуры з болевымі адчуваннямі і холадавымі траўмамі. Пярсцёнкі на пальцах да таго ж абцяжарваюць нармальную цыркуляцыю крыві. Глядзіце, каб абмарожаныя месцы зноў не змерзлі: гэта выкліча куды больш значныя пашкоджанні скуры;

**Не сцягвайце на марозе абутак** з абмарожаных ног: яны распухнуць, і вы не зможаце яго зноў абуць.

**Калі змерзлі рукі** – паспрабуйце адагрэць іх пад пахамі. Як толькі вы адчулі, што моцна змерзлі, змерзлі рукі і ногі, пастарайцеся як мага хутчэй зайсці ў любое цёплае месца – краму, кафэ, пад'езд.

**Калі ў вас заглухла машына** ўдалечыні ад населенага пункта або ў незнаёмай для вас мясцовасці, лепш заставацца ў машыне, выклікаць дапамогу па тэлефоне ці чакаць, пакуль па дарозе пройдзе іншы аўтамабіль. Хавайцеся ад ветру: верагоднасць абмаражэння на ветры значна вышэйшая.

Не выходзьце на мароз з вільготнымі валасамі пасля душу.

**Найбольш схільныя да пераахаладжэння і абмаражэння дзеці і пажылыя людзі.** Гэта варта ўлічваць пры плананаванні прагулкі. Захапіце з сабой пару зменных рукавіц і тэрмас з гарачым чаем. Адпускаючы дзіця гуляць у мароз на вуліцу, памятайце, што яму трэба кожныя 15-20 хвілін вяртацца ў цяпло і саграваецца.

**Паводле прэс-рэлізу МНС па Мінскай вобласці.**

ЗДАРЭННІ

## Наткнуўся на астанкі чалавека

**СМАРГОНЬ.** Жыхар Смаргоні **Яўген Гродзь**, капаючы траншэю для газаправода да свайго дома, нечакана наткнуўся на астанкі чалавека.

Шкілет быў падперазаны абоймамі патронаў, і іх выгляд даў краязнаўцам падставу выказаць здагадку, што перад імі – салдат Першай сусветнай вайны.

На карысць гэтага сцвярджэння кажа і той факт, што вуліца, на якой пабудаваў дом Яўген Гродзь, знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці да "Залатой горкі" – вышыні, за якую ішлі асабліва кровапралітныя баі. Смаргонцы, якія будавалі тут дамы, знаходзілі артэфакты стогадовай даўніны – гільзы, патроны, снарады, кацялкі і нават рэшткі зброі.

Астанкі салдата перададуць зямлі па хрысціянскім звычаі.

**Паводле "Гродзенскай праўды".**

## Два пажары за адзін дзень

**ВІЛЕЙКА.** Два пажары адбыліся ў Вілейскім раёне 25 студзеня. Першы здарыўся ў вёсцы Красніца. Паведамілі пра яго каля пяці гадзін раніцы.

– У выніку пажару драўляны дом цалкам выгараў. Ён выкарыстоўваўся як лецішча, – паведаміў старшы інспектар райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук**.

Першым загаранне ўбачыў вясковец, які цеплію кацёл на гэтым лецішчы (яно належыць мінчаніну). Мужчына выйшаў адтуль і патэлефанаваць жонку патэлефанаваць выратавальнікам.

Прычынай пажару стала парушэнне правілаў бяспекі пры ўладкаванні коміна.

Яшчэ адзін пажар адбыўся ўвечары. Інфармацыя пра загаранне драўлянага дома ў вёсцы Цынцавічы паступіла каля 8:30.

Супрацоўнікі райаддзела ўбачылі, што гарыць дах і хата ўсярэдзіне. Людзей у ёй не было.

У доме жыла 94-гадовая жанчына. Яна сама выйшла з хаты, а на "101" патэлефанавалі суседзі.

У выніку ад дома засталіся адны сцены, знішчаная і маёмасць. Бабулю да сябе забраў сын.

Прычына пажару ўстанаўліваецца, расказаў інспектар Дзяржпажнагляду аддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Івянцы на пажары загінуў мужчына

**ВАЛОЖЫН.** Здарэнне адбылося 22 студзеня. У дзяжурную часць паступіла паведамленне пра тое, што гарыць жылы дом у мястэчку Івянец.

Выратавальнікі заўважылі, што дым выбіваецца з-пад даху дома. У доме яны выявілі труп 60-гадовага мужчыны, гаспадара дома.

Па словах сваякоў, мужчына хварэў на анкалагічнае захворванне. Быў закадзіраваны, але ў апошні час зноў стаў выпіваць.

Як мяркуецца, прычынай пажару магло стаць неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні, – паведамляе інспектар Валожынскага дзяржпажнагляду **Алеся Радвіловіч**.

**Наталля ТУР.**

## Як ратавацца ад абмаражэння

**Сёлета абмаражэнні на Міншчыне атрымалі ўжо чатыры чалавекі.**

Абмаражэнне здараецца з-за халоднага ветру і нізкай тэмпературы, але яму таксама садзейнічаюць алкагольнае і наркатычнае ап'яненне.

Калі ўсё ж абмаражэння не ўдалося пазбегнуць, неабходна выклікаць "хуткую дапамогу" і завезці чалавека ў бальніцу. Пакуль чакаеце дактароў, паспрабуйце сагрэць чалавека гарачым чаем ці малаком.

Калі "хуткая" затрымліваецца, першую дапамогу варта аказаць да іх прыезду.

Варта не дапусціць сагравання абмарожаных участкаў цела звонку, таму што цёплае паветра, вада і цёплыя рукі адмоўна ўздзейнічаюць. Калі пацярпелы трапіць у памяшканне, ізалюйце пашкоджаныя ўчасткі цела ватнымі і марлевымі павязкамі. Вельмі важна, каб тканіна павязкі закрывала толькі абмарожаныя ўчасткі скуры.

Не менш важна забяспечыць нерухомасць кісцяў і ступняў: сасуды на іх вельмі кволыя і могуць быць пашкоджаныя.

Калі аказаць першую дапамогу своечасова, можна пазбегнуць цяжкіх наступстваў. Не будзьце абыякавыя да ўласнай бяспекі.

КОНКУРСЫ

# “Настаўніка года” выберуць у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Фінал другога (раённага) этапу конкурсу прафесійнага майстэрства “Настаўнік года” адбудзецца ў чацвер, 30 студзеня, у гімназіі-каледжы мастацтваў.**

На суд журы настаўнікамі будзе прадстаўлены конкурс-самапрэзентацыя і міні-ўрок на зададзеную тэму.

– На якую тэму будзе ўрок, пакуль не ведаюць і самі ўдзельнікі, яе агучаць толькі ў сераду, калі правядзем лёсаванне, – паведаміла ў панядзелак “Рэгіянальнай газеце” загадчыца раённага вучэбна-метадычнага кабінета аддзела адукацыі **Аксана Семеж.**

Усяго ў фінал раённага этапу выйшлі 12 настаўнікаў з Маладзечна і Маладзечанскага раёна.

Аксана Семеж распавяла пра тое, што ў фінале прымуць удзел як настаўнікі з вышэйшай катэгорыяй, так і маладыя спецыялісты.

Трое выкладчыкаў-мужчын таксама ў ліку фіналістаў конкурсу. Гэта настаўнікі гісторыі з 5-й і 11-й школ і настаўнік англійскай мовы з гімназіі-каледжа мастацтваў.

**– Па якіх крытэрыях адбіраліся ўдзельнікі? Чым пакарылі членаў журы ўдзельнікі фіналу?**

– У адборачных этапах конкурсу ўдзельнічалі каля 80 педагогаў. Галоўным крытэрыям адбору былі, безумоўна, праведзеныя ўрокі ўдзельнікаў. Кожны этап урока ацэньваўся пэўнымі баламі. Уладальнікі найбольшай колькасці балаў і сталі фіналістамі.

**– Выкладчыкаў якіх прадметаў у фінале конкурсу больш?**

– У фінале конкурсу настаўнікі абсалютна розных прадметаў. У нас не было задачы выбраць спецыялістаў толькі гуманітарнага або дакладнага цыклу. Па правілах, у фінале конкурсу павінны быць настаўнікі розных спецыяльнасцяў, у шасці намінацыях: “фізіка, астраномія, матэматыка, інфарматыка”; “замежная мова”; “беларуская мова і літаратура, руская мова і літаратура”; “пачатковыя класы”; “музыка, выяўленчае мастацтва, працоўнае навучанне, чарчэнне, фізічная культура і здароўе, дапрызыўная падрыхтоўка”; “гісторыя, грамадазнаўства, геаграфія, хімія, біялогія”;

**Конкурс “Настаўнік года Рэспублікі Беларусь” праводзіцца з 1991 года. Спачатку ён праводзіўся ў межах Усесаюзнага конкурсу “Настаўнік года”.**

Сімвалам конкурсу з'яўляецца “Хрустальны журавель”, яго і ўручаюць пераможцам конкурсу.

Першы рэспубліканскі конкурс “Настаўнік года Беларусі” адбыўся ў 1995 годзе. Тады ўладальнікам тытула “Настаўнік года” стаў настаўнік фізікі з горада Драгічына.

Намеснік дырэктара па эстэтычным выхаванні з маладзечанскай беларускай гімназіі **Таццяна Бабей** у 1995 годзе стала пераможцай абласнога этапу конкурсу.

У 2001 годзе яшчэ адна настаўніца з маладзечанскай беларускай гімназіі, **Галіна Дрокіна**, – у ліку пераможцаў абласнога этапу конкурсу.

У 2006 і 2011 годзе настаўнікі з Маладзечна, Валожына і Мядзела станавіліся пераможцамі абласных этапаў конкурсу, але пераможцаў рэспубліканскага конкурсу “Настаўнік года” ім стаць не пашчасціла.

У 1997 годзе “Хрустальны журавель” апынуўся ў руках настаўніцы гісторыі з Ашмянаў **Валянціны Гінчук**, а ў 2006 годзе – **Ірыны Клявец**, настаўніцы біялогіі са Смаргоні.

**Наталля ТУР.**

НОВАЎВЯДЗЕННІ

# Праект “Адзін вучань – адзін камп'ютар”

### Досвед смаргонскай гімназіі

**СМАРГОНЬ. Ужо два гады запар у гімназіі ажыццяўляецца праект “Адзін вучань – адзін камп'ютар”. Што гэта за праект, запыталіся мы ў намесніцы дырэктара па вучэбнай рабоце гімназіі Марыі Прыстромавай.**

– Галоўная мэта гэтага праекта – прыцягнуць дзяцей да работы за камп'ютарам. Каб яны вучыліся працаваць на ім не толькі ў забаўляльных мэтах, але разумелі, што і вучобу камп'ютар таксама можа спрасціць. Мы намагаемся, каб пасля заняткаў на камп'ютары дзеці самі маглі зрабіць прэзентацыю. Або каб ведалі, як вядуцца дзённікі назіранняў.

**– На якіх уроках актуальны гэты праект?**

– Выкарыстоўваць камп'ютары можна на ўсіх уроках без выключэння. Калі два гады таму наша гімназія стала ўдзельніцай гэтага праекта, навучанне пры дапамозе камп'ютарных сродкаў вялося толькі па трох прадметах: хіміі, біялогіі, матэматыцы. Цяпер, вядома, імкнёмся прыцягваць і іншых настаўнікаў-прадметнікаў. Галоўнае, навучыць саміх настаўнікаў весці такую работу.

**– Праект “Адзін вучань – адзін камп'ютар” ажыццяўляецца ў камп'ютарным класе?**

– Не, мы называем гэта “мабільныя камп'ютарныя класы”. Нэтбукі захоўваюцца ў калясках, якія можна перамяшчаць па школе, абсалютна ў любы клас.

**– Вучні якога ўзросту прымаюць удзел у праекце?**

– Нашымі першымі ўдзельнікамі праекта былі школьнікі, якія вучыліся ў 5-6 класах. Цяпер мы падключылі і вучняў пачатковых класаў.

**– Праект “Адзін вучань – адзін камп'ютар” ажыццяўляецца ўжо два гады, а якія-небудзь новыя праекты гімназія будзе ажыццяўляць?**

– Цяпер намі ажыццяўляецца праект па маральным выхаванні, але ўсе новыя праекты без інфармацыйных тэхналогій немагчымыя. Што датычыцца ўрокаў, то за ўсім прагрэсам усё ж такі варта памятаць, што дошку і крэйду ніхто не адмяняў.

**Наталля ТУР.**



Фота franik.com

Адзін вучань – адзін нэтбук.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## Пошта далучылася да барацьбы з самагонам

**МІНШЧЫНА. Работнікі пошты падтрымалі ініцыятыву міліцыі, паводле якой любы чалавек ананімна і зручным для яго чынам можа паведаміць міліцыі аб месцах незаконнага вырабу і продажу спіртнога.**

Цяпер можна проста апусціць у паштовую скрынку паперу любога фармату без канверта і паштовай маркі, на якой напісаны адрас парушальніка, месца знаходжання самагоннага апарата ці іншая інфармацыя.

Усе запісы работнікі пошты перададуць кіраўніцтву органаў унутраных спраў для аператыўнай праверкі.

Практыка паказвае, што не заўсёды сельскі жыхар у сталым узросце можа пазваніць у міліцыю і паведаміць аб месцах вырабу і продажу спіртнога. Зрабіць гэта праз пошту некаторым будзе лягчэй.

Менавіта дзякуючы такому паштоваму каналу летась на Міншчыне знайшлі і прыцягнулі да адказнасці буйнейшых вытворцаў нелегальнага спіртнога. У тым ліку дзякуючы актыўнай пазіцыі грамадзян летась у вобласці знайшлі больш за дзве тысячы асоб, задзейнічаных у незаконным абароце спіртнога. Гэта найбольш, чым у іншых абласцях Беларусі.

Міліцыя Міншчыны просіць падтрымаць прапанаваную ініцыятыву, не заставацца раўнадушнымі да жаночых і дзіцячых слёз, чые мужы і бацькі пакідаюць на “точках” не толькі зарплаты, але і выносяць з дому апошнія прадукты і рэчы.

**Паводле прэс-рэліза УУС Мінаблвыканкама.**

КОНКУРСЫ

## Тры працы з рэгіёна – у ліку лепшых у вобласці

**МІНСК, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ. У Мінску 17 студзеня прайшла вочная абарона абласнога этапу рэспубліканскага конкурсу навуковых біёлага-экалагічных прац навучэнцаў.**

Конкурс праводзіўся ў шасці намінацыях, паведамляе Мінскі абласны вучэбна-метадычны цэнтр.

*Ацэньваліся змест працы, яе актуальнасць і практычная значнасць, самастойнасць і ўменне дакладчыка падаць матэрыял, адказваць на пытанні.*

Вызначаныя 14 лепшых прац, якія накіраваны на рэспубліканскі этап. У іх ліку – тры з нашага рэгіёна. Гэта працы **Анастасіі Малько** з гімназіі №6 Маладзечна, **Лізаветы Марчанкі** з Камароўскай сярэдняй школы і **Дыяны Чаркашынай** з Наракскай сярэдняй школы №2 Мядзельскага раёна.

**Аддзел інфармацыі.**

ТВОРЧАСЦЬ

# Школьнікі спявалі бардаўскія песні ў гонар Высоцкага



Фота Віталя МЛЕЧКІ.

Улад Мацуновіч, цэнтр творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік".

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс аўтарскай песні, прысвечаны памяці Уладзіміра Высоцкага, адбыўся ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" 23 студзеня.**

Ніхто з удзельнікаў раённага свята "Спяваем разам з сябрамі" не застаўся без узнагарод.

Дванаццаць сёмы раз свята збірае самых таленавітых юнакоў і дзяўчат, іх педагогаў і бацькоў разам, каб ушанаваць памяць Уладзіміра Высоцкага – паэта, акцёра і аўтара-выканаўцу.

### Акуджава, Разенбаум і ДДТ не губляюць актуальнасці

Пачалі канцэрт шасцёра выканаўцаў з Селеўскай базавай школы песняй Андруся Мельнікава "Я сын таго краю", а кіраўнік **Віктар Цыбульскі** падтрымаў іх прафесійнай ігрой на гітары.

Удала дэбютаваў вучань гімназіі-каледжа мастацтваў **Максім Лях**. Ён не толькі пяць гадоў іграе на гітары, але і з шасці асвойвае фартэпіяна. У кампаніі чацей за ўсё спявае Разенбаума, ДДТ і іншае, што папросяць сябры. Хлопец можа хутка падабраць акорды да любой мелодыі. Для конкурсу юнак абраў песню Аляксандра Барыкіна "Птушкі".

– Гэты твор прывабіў сваёй меладычнасцю і кранальным тэкстам, – патлумачыў Максім.

**Глеб Жабін** і **Вадзім Свянціцкі** (гімназія №10) былі адзіныя, хто спяваў песню Уладзіміра Высоцкага "На брацкіх магілах". Прагучалі дзве песні Булата Акуджавы "Ваша благародздзе" ў выкананні дуэта з Гарадзілаўскай школы і "Бяры шынель" у выкананні ансамбля СШ №14. Кіраўнік гэтага калектыву **Юлія Вяжэвіч** адзначыла:

– Мы заўсёды думаем на перспектыву. Сёлета святкуецца 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І песню такой тэматыкі можна будзе выкарыстоўваць у будучым на розных канцэртах.

Навучэнцы СШ №14 – пастаянныя ўдзельнікі раённага свята "Спяваем разам з сябрамі", але сярод іх ёсць і навічкі – **Сяргей Скуратовіч** і **Юлія Танюкевіч**. Галоўнае, што аб'ядноўвае падлеткаў – музычная адукацыя, жаданне пець разам і ўпэўненасць у перамозе.

### Атлантыда і Лэдзі

Бурнымі апладысментамі слухачы сустракалі гурт цэнтра творчасці "Маладзік", які выступіў з песняй "Атлантыда". Іх прафесійнасць, яркасць і аптымістычнасць прынеслі перамогу ў намінацыі "ансамблі".

Пераможцай сярод сольных выканаўцаў стала прадстаўніца гімназіі №10 **Ганна Алексяеўская**. Калі б вы чулі яе чароўны голас, то, безумоўна, пагадзіліся б з журы. Песня Юрыя Візбара "Лэдзі" прыйшлася ёй да душы на школьным вечары, прысвечаным гэтаму барду.

– Я адразу зразумела, што гэта "маё", – распавядае Ганна. – На пачатку было шмат памылак і недахопаў, але, добра папрацаваўшы, усё стала на свае месцы. Хваляванне, вядома ж, было: вялікая зала, шмат людзей, журы, якое хочацца ўразіць, – усё дадавала ўнутранага трапятання, – падзялілася пачуццямі дзяўчынка.

Ганна сем гадоў займаецца прафесійнай ігрой на гітары, а вось спявае толькі два гады.

### Дзеці пішуць менш песень

На жаль, менавіта аўтарскіх песень, напісаных дзецьмі, з кожным годам усё менш. Сёлета ў гэтай намінацыі адзначана трыа СШ №4 у складзе **Дыяны Пакорнай**, **Яны Сільцовай** і **Ульяны Кузняцовай** з патрыятычнай аўтарскай песняй "Ганаруся".

– Бардаўскія песні – гэта перш за ўсё вершы, пакладзеныя на музыку. А яны, у сваю чаргу, павінны быць для душы, – адзначыў адзін з членаў журы маладзечанскі бард, кампазітар і рэжысёр **Аляксандр Бялоў**.

### "Мая Беларусь" у панк-року

Па-за конкурсам на сцэну выйшлі прадстаўнікі Алёхнавіцкай школы і здзівілі з першых акордаў. Хлопцы зайгралі ў стылі панк-рок, што адразу падхапіла публіку. Цяжкія гукі электрагітары, моцны голас і гучныя ўдары па барабане прымусілі сэрца біцца хутчэй.

Уразіла і тое, што юнакі самі склалі тэкст для сваёй песні "Мая Беларусь". Што ж, наша моладзь таленавітая ў розных напрамках і стылях, а беларуская мова гучыць аднолькава прыемна: як у рок-музыцы, так і ў класічных мелодыях.

**Юлія СТРЫГА,**
**навучэнка гуртка "Школа журналістыкі", цэнтр творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік".**

ВЫСТАВЫ

## Івянец з'явіцца на паштоўках

**ВАЛОЖЫН.** Набор паштовак з выявамі старых фотаздымкаў мястэчка выдаў Івянецкі музей традыцыйнай культуры.

Выданне змяшчае 11 фотаздымкаў. Яны не будуць ісці на продаж, але работнікі музея плануюць зрабіць яшчэ адзін камплект, які ўжо можна будзе набыць. Пра гэта распавяла дырэктар музея **Валянціна Адамовіч:**

– На жаль, аўтар фота невядомы. Па сваёй працы мы збіраем прадметы народнага мастацтва, аднак і не праходзім міма краязнаўчых, у тым ліку фотаздымкаў. У гэтай калекцыі фота ад канца 19 стагоддзя да 70-х гадоў 20-га. Цяпер людзі больш карыстаюцца лічбавымі носьбітамі, на руках мала што трымаюць. Так страчваецца традыцыя пакінуць пасля сябе штосьці, да чаго можна дакрануцца. Па нашым плане, у канцы года, мы выдадзім новую, папоўненую калекцыю паштовак, якую можна будзе набыць. А ўжо надрукаваны камплект будзе зручна выкарыстоўваць, напрыклад, на лекцыях з вучнямі, калі мы распавядаем, што тут было 100 год таму. Гэта лепш працуе, чым модныя прэзентацыі.

У камплекце ёсць здымкі польскага гарнізона, плошчы з Траецкім касцёлам і драўлянай царквой, дома **Пятра Драгунцова** з узорнай брамай, вядомага івянецкага млына на беразе Волмы. Мястэчка атрымала шмат змяненняў падчас рэканструкцыі 70-х.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Пазнайце сябе на фота Аляксандра Салагуба

**МАЛАДЗЕЧНА.** Выставы фотамастака Аляксандра Салагуба працуюць адначасова і прысвечаныя розным тэмам.

У Палацы культуры працуе новая выстава "Шахта і шахцёры". На ёй – фотаздымкі з Данбаса пераважна ў 1980 гады. Аднак ёсць і больш старыя фота, самае старэйшае зроблена ў 1949 годзе.

– Мой бацька працаваў на шахце, і на гэтым фотаздымку яго знялі якраз перад спускам, – распавядае фатограф. – Ён мусіў працаваць 10 год, каб зарабіць на пенсію: тыя гады, што працаваў на шахце ў Францыі, не лічыліся, таму што гэта работа не на Савецкі Саюз. Давялося адпрацаваць у французскай шахце 18 год і 10 – у савецкай. У той час разам з ім працавалі і жанчыны, нават у самім забоі, дзе непасрэдна здабываюць вугаль. Ад 1956 года іх вывелі з шахты, не дазвалялі працаваць з-за шкоды для здароўя.

Работы фатографа можна паглядзець у выставачным фае да 10 лютага.

### Працуюць адразу дзве выставы

У дзіцячай школе мастацтваў працуе выстава з 66 здымкаў "Прыходзьце – пазнайце сябе і сваіх блізкіх!" Фота Гданьска, Батумі, Ленінграда, Данецка і, вядома, Маладзечна прапануюць ацаніць, якімі былі гэтыя мясціны. Самыя даўнія фатаграфіі аўтар зрабіў каля 40 гадоў таму.

Выстава працуе да 24 лютага.

**Даведка "РГ". Аляксандр Салагуб.** Нарадзіўся 26 кастрычніка 1935 года ў горадзе Алес (Францыя). Дзяцінства прайшло на поўдні Францыі. У 1947 годзе бацькі пераехалі ў Савецкі Саюз, у Данбас, дзе Аляксандр Салагуб працягваў справу бацькі – працаваў шахцёрам. Праз некалькі гадоў сям'я перабралася ў Маладзечна, бліжэй да радзімы продкаў – Вілейшчыны.
Ад 1964 года Аляксандр Салагуб жыве ў Маладзечне. Працаваў на станкабудаўнічым заводзе, супрацоўнічаў з мясцовымі газетамі.
Захапіўся фатаграфіяй яшчэ ў дзяцінстве: у сям'і быў вялікі фотаархіў, і бацькі ўхвалялі яго папаўненне новымі здымкамі. У 1974 годзе лёс прывёў Аляксандра Аляксандравіча ў клуб фотааматараў "Гарызонт" пры гарадскім Доме культуры.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

• **"МІЛЭДЗІ"** – вясельныя ўбранні. Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэлье "Бярозка"). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*

• **"НАДЗЕЯ" –** вясельныя, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №65. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-044) 5502031.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы, індывідуальны сцэнарый, прафесійны падыход. Т. (8-029) 6188716.*

• Тамада-баяніст, дыскатэка на вяселле, юбілей. Сайт: www.toast-master1.narod2.ru УНП АА 9523648. Т. МТС (8-029) 5510526.*

## ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Форд Транзіт, 8 месцаў. ІП Капцюг Д.Д. УНП 691296278. Т. (8-029) 9843277.

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Iveco, тэнт, 20 куб.м, 3 т, сан пашпарт. ІП Ізмераў Н.Б. УНП 691503608. Т. (8-033) 6336666.*

• Iveco, да 3 т, перавозка мэблі, грузаў, аўто і інш, РФ, РБ, Літва. ІП Дземеш В.А. УНП 690375434. Т. (8-029) 6777862.*

• Мерседэс, да 1,8 т., 20 м.куб., дастаўка невялікіх грузаў, пасылак у/з Масквы, пастаянна ў/з Мінска. ІП Грыгор'еў В.В. УНП 191095797. Т. (8-029) 6170745, (8-029) 7570745, Уладзімір.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

• Форд, 1,5 т. Горад, раён, РБ. ІП Шафаловіч Д.С. УНП 690534457. Т. (8-029) 5691813, (8-044) 5691813.*

• Мерседэс-814, да 5т. па горадзе и РБ. ПП "Экспі-Трэйдзінг". УНП 691513319. Т. (8-029) 8580024, (8-029) 8277707.*

• Эвакуатар DAF-45 да 5 т. па горадзе і РБ. ПП "Экспі-Трэйдзінг". УНП 691513319. Т. (8-029) 8580024, (8-029) 8277707.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АКВААЭРОБІКА** ў гарадскім басейне. ІП Рашчэня Ю.С. УНП 192130041. Т. (8-033) 6725651.*

• Выраб і ўстаноўка між паверхамі лесвіц, з натуральнага дрэва, сталярна-цяслярныя работы. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **ДЭМАНТАЖ, МАНТАЖ** сантэхнічнага абсталявання і ацяплення. Зварка, пайка. ІП Лешчанкоў С.В. УНП 691515088. Т. МТС (8-029) 5639304.*

• **ЗВАРАЧНЫЯ ВЫРАБЫ,** магчымы аўтакузаўныя работы. ІП Герасімаў В.А. УНП 691511344. Т. МТС (8-029) 8545172.*

• **ПАШЫЎ АЎТАМАБІЛЬНЫХ СЯДЗЕННЯЎ,** чахлоў і чахлоў на мэблю за наяўны і безнаяўны разлік. ІП Мацко Е.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184, МТС (8-029) 2322353 (19.00).*

• **РАМОНТ ТУРБІН.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Хімчыстка дываноў, канап, штор, пліткі і іншае. ІП Лобач Д.Г. УНП 192102659. Т. (8-029) 1864019.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні і іншае. Спяшайцеся зрабіць падарунак - парадыйнае шоу роставых лялек для дарослых на вяселлі, юбілеі, навагоднія карпаратывы. Віншаванні Дзеда Мароза і Снягуркі. ІП Кананові І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бетонамяшалкі. Катлы. Печы. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• Грунтазачэпы да мотаблока, можна пад заказ, Валожын. Т. (8-044) 5543365.*

• Бульбасаджалка да міні-трактара, Валожын. Т. (8-044) 5543365.*

• МТЗ-80, без дакументаў. Т. (8-029) 5673862.

**Бытавая тэхніка**

• Машына пральная "Атлант-840Т", б/у, танна. Т. (8-029) 1394843.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

**МЭБЛЯ**

• Мэбля б/у. Т. (8-029) 6888111, (8-0172) 562744.*

• Стол пісьмовы, нядорага, Маладзечна. Т. (8-0176) 768567, (8-029) 1523899.

• Секцыя-горка, б/у, добры стан, Маладзечна. Т. (8-029) 8769681, (8-029) 6042046.

• Шафа-купэ, шафа, б/у. Т. (8-029) 9281627.*

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

• Козы: 2 котныя (акот у лютым), 1 з казлянятамі, в.Бараўцы, Вілейскі р-н. Т. (8-01771) 48441.

• Шчаня (кабялёк) шакаладнай масці, 1 месяц, Маладзечна. Т. (8-033) 6323293, (8-044) 5930753.*

• Шыншыланяты. Т. (8-029) 7664914.*

**ІНШАЕ**

• Акварыум, б/у і рыбак. Т. (8-01771) 54453.

• Венікі лазневыя, Маладзечна. Т. (8-029) 2728087.*

• Дзверы драўляныя міжпакаёвыя, з каробкай, б/у. Т. (8-029) 5693938.

• Дзверы ўваходныя металічныя, б/у; міжпакаёвыя дзверы (хвоя), б/у, Маладзечна. Т. (8-029) 8542641.

• Дровы ў цурках з дастаўкай. УНП 690690777. Т. (8-029) 8589498.

• Мыйка, 60 см, п'едэстал, новая ва ўпакоўцы. Т. (8-029) 1864019.

• Планшэт Apple iPad 16 GB, Wi-Fi. Добры стан. Поўны камплект, без праблем. Арыгінал, 170 у.а. Т. (8-029) 1446863.

• Сетка рабіца ацынкаваная 12 рулонаў (1,2м*10м.2мм.200000 р/рул). Т. (8-033) 3229424.

• Швейная машына "Падольск" з эл/прыводам. Т. 763953, (8-029) 6394096.

## КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Інвертар зварачны, а таксама былыя ва ўжыванні альбо новыя электрарухавікі рознай мадыфікацыі. Т. Вэлком 6734324, Віктар.

• Мотаблок МТЗ, прычэп, фрэзу, навясное абсталяванне, Мядзел. Т. (8-029) 9318495.

• **ПРЫЧЭП ДА ЛЕГКАВОГА АЎТАМАБІЛЯ** ў любым стане. Т. МТС 7611120.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• Тэлевізары няспраўныя LCD. Т. (8-029) 6434740.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ.** Прыеду да вас. Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу на польскай або іншай заходнеславянскай мове. Т. (8-029) 5019550.*

• Скуркі куніцы, пясца, лісы. Т. (8-029) 8552646.*

• Фотаапарат Агат-18К. Т. (8-029) 6927353.*

## ЗГУБЛЕНА

• Згубленую пячатку індывідуальнага прадпрымальніка на імя Рака Аляксандра Іванавіча лічыць несапраўднай.

## ІНШАЕ

• 12 лютага – камедыя "Шэрше ля фам!" у пастаноўцы тэатра мініяцюр "Брава!". Пачатак у 19.00. Білеты: 20 тыс. руб. ДУ "Палац культуры г.Маладзечна". УНП 690244105. Т. (8-0176) 752784.

• 7 лютага – канцэрт "Музыка, у якую нельга не ўлюбіцца" заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь сімфанічнага аркестра Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М.К.Агінскага. У праграме музыка кампазітара Л.Левашкевіча. Пачатак у 19.00. Білеты: ад 50 тыс.руб. ДУ "Палац культуры г.Маладзечна". УНП 690244105. Т. (8-0176) 752784.

• 9 лютага ў Палацы культуры г.Маладзечна – самае яркае і самае запатрабаванае шоу ў свеце "Жарсць Аргенціны". Білеты ад 200 тыс. руб. УНП 690244105. Т. (8-0176) 752784.

• Студэнцкі білет на імя Завадскай Наталлі Мікалаеўны №0143494 лічыць несапраўдным.

• Шукаю рэпетытара па матэматыцы ў Вілейцы, 6 клас. Т. МТС (8-029) 5695277, МТС (8-029) 7564187.

• Шукаю спадарожнікаў у Беласток. Т. (8-029) 6535627, (8-029) 5743335.*

• Шукаю спадарожнікаў у Хмяльніцкі, Беласток. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Якаснае аздабленне кватэр, дамоў, столі пад афарбоўку, шпаклёўка, шпалеры і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Майстар па рамонце мабільных тэлефонаў. ТДА "Клаттон". УНП 190101114. Т. (8-029) 3971772.

● ЭКАЛОГІЯ

# Цэнтр якасці вады адкрыўся ў Мядзеле

## Ініцыятыва адбылася ўслед за Вілейкай

**МЯДЗЕЛ. Прайшло ўсяго восем дзён з адкрыцця рэгіянальнага інфармацыйнага цэнтра па пытаннях якасці вады ў Вілейцы, як падобны з'явіўся ў Мядзеле.**

Запрацаваў ён у сярэднім школе №1 імя Уладзіміра Дубоўкі, каардынаваць яго працу будзе настаўніца школы **Алена Паршута**. Гэта трэці падобны інфацэнтр у Беларусі. Адкрыты ён пры падтрымцы Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

У цэнтры шмат літаратуры, стэндаў, адукацыйных матэрыялаў. Яшчэ госці са сталіцы прывезлі мультымедыяпраектар, кампактную лабараторыю для аналізаў вады.

**– Ці ёсць якая розніца паміж цэнтрамі ў Мядзеле і Вілейцы? –** спытаў у спецыяліста па ўстойлівым кіраванні воднымі рэсурсамі Цэнтра экалагічных рашэнняў **Наталлі Парэчынай.**

**–** Найперш, розніца ў людзях: кожны па-свойму ставіцца да навакольнага асяроддзя. Мядзельшчына ж – гэта край азёр, тут вельмі шмат вады, якая мае вялікае значэнне для жыцця людзей. І тут знаходзіцца асабліва ахоўная тэрыторыя – Нацыянальны парк "Нарачанскі". Таму ў рэгіёне асабліва важна падтрымліваць чысціню прыродных вадаёмаў, лясоў, берагоў.

У гэтым вялікую ролю могуць адыгрываць падобныя інфармацыйныя цэнтры, якія даюць магчымасць людзям пазнаёміцца з тымі праблемамі, якія існуюць, і інструменты для вырашэння гэтых праблем.

З Мядзельскім раёнам мы працуем трошкі раней, чым з Вілейскім, тут большая колькасць школ – 14 – удзельнічае ў праекце. Ёсць і дасягненні. А праца цэнтраў падобная: аднолькава надаём увагу і ўтрыманню нітратаў у пітной вадзе, і прыродным вадаёмам. Бо гэта пытанні ўзаемазвязаныя і ўзаемазалежныя.

Падчас адкрыцця настаўнікі з дапамогай памочніка каардынатара праекта "Прадухіленне забруджвання прыродных вадаёмаў праз асвету грамадскасці і спецыялістаў" **Любаміра Клепача** вучыліся заносіць інфармацыю на сайт watercontrol.by. Гэты сайт дапамагае змагацца з забруджваннем вады ў Беларусі. Педагогі і ўсе ахвотныя могуць дабавіць у базу дадзеных сайта знойдзеныя імі крыніцы забруджвання водных рэсурсаў. А яшчэ правесці даследаванні на ўтрыманне нітратаў у калодзежнай вадзе з дапамогай тэстпалосак (атрымаць іх можна ў цэнтры) і зноў жа занесці вынікі на сайт.

Са сваімі напрацоўкамі пазнаёмілі калег і гасцей настаўнікі біялогіі ўстаноў адукацыі раёна. Расказалі, як разам з дзецьмі шукалі крыніцы забруджвання ракі Сырмеж, вывучалі раку Дробня і возера Мястра. Малодшы навуковы супрацоўнік Нарацкай біялагічнай станцыі **Юлія Верас** сярод іншага паведаміла пра магчымасць юным даследчыкам паўдзельнічаць у Стакгольмскім юніёрскім водным конкурсе.

А напрыканцы Наталля Парэчына ўзнагародзіла актыўных удзельнікаў міжнароднай праграмы "Назіранне за рэкамі". Найбольш падарункаў, сярод якіх была і палатка, прымала настаўніца біялогіі Нарацкай сярэдняй школы №1 **Жанна Куцкевіч.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**З падарункамі – настаўніца біялогіі Нарацкай сярэдняй школы №1 Жанна Куцкевіч.**

# Вуліцы “Страіцеляў” і “Жалезнадарожная” могуць з'явіцца ў Беларусі

## Трасянку ўзаконяць?

**У Беларусі плануюць унесці змены адразу ў два законы. Гэтыя змены дазволяць даваць назвы геаграфічным аб'ектам не выключна на беларускай мове, як гэта адбываецца цяпер, але і на рускай.**

Рускамоўныя назвы заканадаўцы прапануюць транслітараваць на беларускую мову. У выпадку прыняцця змен, у Беларусі могуць масава з'явіцца вуліцы “Страіцеляў”, “Жалезнадарожная” і іншыя найменні ў найлепшых традыцыях трасянкі. Спецыялісты ўпэўненыя: прыняцце праекта змяненняў можа прывесці да знішчэння нацыянальнай тапанімікі і спарадзіць “катастрафічную сітуацыю”.

Калі звычайны чалавек кіне вокам на змены, якія збіраюцца ўнесці ў заканадаўства, ён нават не зразумее, наколькі можа памяняцца сітуацыя ў беларускай тапаніміцы ад некалькіх, здавалася б, малазначных прапаноў. Аднак спецыялістам па тапаніміцы відавочна – сітуацыя зменіцца “катастрафічна”.




**Мы жывём у Беларусі, таму логіка патрабуе, каб назвы населеных пунктаў, вуліц, плошчаў, рэк і г.д. былі на беларускай мове, а пасля спосабам транслітарацыі передаваліся на рускую мову. Вось красамоўны прыклад назвы вуліцы Паўночнай у Маладзечне.**

**Артыкул 17 Закона “Аб назвах геаграфічных аб'ектаў” прапануецца запісаць так: “У Рэспубліцы Беларусь найменні геаграфічным аб'ектам прысвойваюцца на беларускай мове, з якой спосабам транслітарацыі перадаюцца на рускую мову, або на рускай мове, з якой спосабам транслітарацыі перадаюцца на беларускую мову”*.**

Артыкул 35 раздзела 5 Закона “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” прапануецца запісаць так: “У Рэспубліцы Беларусь тапонімы (найменні населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і г.д.) даюцца на беларускай мове, з якой спосабам транслітарацыі перадаюцца на рускую мову, **або на рускай мове, з якой спосабам транслітарацыі перадаюцца на беларускую мову**”.

(Тлустым шрыфтам выдзеленыя наваўвядзенні, якіх варта чакаць).

Змены ў заканадаўства ўносяцца па даручэнні Савета Міністраў Беларусі. Цяпер праект змяненняў у Закон “Аб назвах геаграфічных аб'ектаў” знаходзіцца ў Дзяржкамітэце па маёмасці.

У мінулым годзе спроба ўнесці змены ў заканадаўства ўжо рабілася. Тады прапанавалі варыянт наўпростага перакладу беларускіх тапонімаў на рускую мову. Прафесар **Валянціна Лемцюгова** на старонках “Нашай Нівы” аргументавана давяла, чаму такога рабіць катэгарычна нельга. Тады Рэспубліканская тапанімічная камісія пры Савеце Міністраў поўным складам прагаласавала супраць прамога перакладу тапонімаў на рускую мову.

Цяперашні варыянт змяненняў – больш хітры і нават больш небяспечны для нацыянальных тапонімаў.

**Чаму – тлумачаць спецыялісты. Вось як пракаментаваў Tut.by магчымыя змены старшыня Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры НАН Беларусі Ігар Капылоў:**

– Тапонімы – гэта гісторыка-культурныя помнікі, якія дайшлі да нас праз стагоддзі і па якіх можна вывучаць і нашу сацыяльна-эканамічную гісторыю, і светапогляд народа, і фальклор, і мову – абсалютна ўсё. Нягледзячы на неспрыяльныя абставіны, праз стагоддзі да нас дайшла нацыянальная тапанімія. Скажаліся нашы тапонімы і ў канцылярыі Расійскай Імперыі, і ў канцылярыі Рэчы Паспалітай, але аснова нацыянальная захавалася. Гэта – скарб. Што адбудзецца, калі будзе прыняты закон у такім выглядзе, артыкул 17? З аднаго боку, гэта выглядае вельмі дэмакратычна, паколькі пакідаецца выбар, на якой мове называць аб'екты, а з другога – будзем глядзець праўдзе ў вочы: назвы будуць прымацца ў асноўным на рускай мове і транслітаравацца на беларускую. Да чаго гэта прывядзе? Да знішчэння нацыянальнай тапаніміі. І гэта будзе проста катастрафічная сітуацыя.

Называнне геаграфічных аб'ектаў па-руску, а потым транслітарацыя на беларускую мову спародзіць мноства непаразуменняў і вялікую блытаніну.

Падобная сітуацыя назіралася доўгія гады пасля савецкага часу, да прыняцця дзеючага закона ў 2010 годзе.

Прывядзём прыклады.

Тапонім *Отрадное* – назва, прынятая на рускай мове. Калі запісаць гэту назву па прынцыпе транслітарацыі на беларускую мову, то зменіцца значэнне – паўстане тапонім *Атраднае*, быццам гаворка ідзе пра ўзброенае фарміраванне.

Калі перавесці – *Уцешлівае*, *Радаснае*, *Вясёлае* – сэнс тапоніма перадасца таксама не зусім дакладна. Сярод прыкладаў прыводзіць Ігар Капылоў і такі: як перадаць у беларускай транскрыпцыі назву вуліцы Адраджэння? А як моцна зменіцца сэнс назвы вуліцы *Аллейная* (ад рускага слова *аллея*), калі яго запісаць у беларускай транскрыпцыі?

Непрадуманыя змены ў заканадаўстве могуць прывесці да таго, што камусьці прыйдзецца жыць на вуліцы са значэннем “алейная”.

Ігар Капылоў не разумее, хто можа настырна, у другі раз, ініцыяваць змены ў закон.

– Ініцыятар, напэўна, не ведае спецыфікі тапанімічнай, ці ён проста не патрыёт Беларусі.

Старшыня тапанімічнай камісіі пры НАН нагадвае, што цяперашні Закон “Аб назвах геаграфічных аб'ектаў” быў прыняты не так даўно, толькі ў 2010 годзе. Пасля сур'ёзнай апрабацыі, пасля ўзгаднення з Акадэміяй навук і мноствам іншых міністэрстваў.

– Закон ужо працуе чацверты год, і на працягу гэтага тэрміна адпаведныя службы камітэта па маёмасці, у прыватнасці, дзяржаўны картаграфічны геацэнтр, працавалі з мясцовымі органамі ўлады, каб прывесці тапанімію ў адпаведнасць з законам. Была праведзеная вялікая работа па ўпарадкаванні беларускай тапаніміі, на гэта былі выдаткаваныя значныя сродкі, і мясцовыя органы затрацілі шмат сіл і матэрыяльных выдаткаў. І зноў трэба мяняць закон і ўсё перарабляць? Ці мы такія багатыя, я не разумею?

Існуючы спосаб найменні аб'ектаў, зыходзячы з нацыянальнай тапанімікі, адпавядае міжнародным патрабаванням.

– Дапусцім, што нехта з беларускай будзе перадаваць, а нехта з рускай? Будзе парушацца сістэма і будзе блытаніна яшчэ большая. Мне хацелася б, каб была выслуханая думка спецыялістаў, перш чым будзе прыняты закон.

Яшчэ ўзнікае праблема перадачы на лацінку. А гэта ж таксама ёсць ужо дакумент, прыняты на ўзроўні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, і лацінка распрацаваная ў адносінах перадачы з беларускай мовы на лацінку. Перадача з рускай мовы на лацінку? Я не ведаю, які гэта нарматыўны дакумент, ці які новы распрацоўваць, ці браць за аснову расійскі, а ў іх там пяць варыянтаў лацінкі. Гэты вузельчык дае шмат праблемных вектараў адразу.

Намеснік старшыні ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” **Алена Анісім** да абурэння калегі далучаецца:

– Тапанімія, як і мова і культура, з'яўляецца складовай часткай нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Тое, што адбываецца ў нас, выпадае як з міжнароднага пункту погляду, так і з традыцый развіцця краін і шкодзіць інтарэсам нашай дзяржавы.

**“Наша ніва” паводле TUT.BY.**

 



ДА 100-ГОДДЗЯ ПАЧАТКУ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Страшныя тайны вёскі Старадубава

**ВІЛЕЙКА. Гэту гісторыю расказваў сваёй дачцэ Соф'і жыхар вёскі Старадубава Казімір Іванавіч Смаленскі. Яна – свайму мужу Францу Мікалаевічу Млечку. А той у сваю чаргу – мне.**

Зразумела, што настолькі доўгі ланцужок апавядальнікаў мог часткова сказіць падзеі, якія адбыліся, таму прашу паставіцца да майго аповеду паблажліва.

Ад 1914 года ў доме Казіміра Іванавіча ў вёсцы Старадубава кватаравалі салдаты расійскай арміі з Чэлябінска. "Кемлівыя" рускія неяк вырашылі падсушыць на печы порах. Сухі порах палыхнуў, а за ім згарэў і дом. У 1915 годзе дом адбудавалі на новым месцы (стары стаяў уздоўж дарогі, новы паставілі перпендыкулярна).

Дом падзялілі на дзве палавіны: у адной жылі салдаты, а ў другой стаялі коні. Крыху воддаль, пад гарой (мясцовасць узгорыстая), паставілі лазню. Як той казаў: вайна вайной, а лазня па раскладзе. І дом, і лазня стаяць да гэтай пары, праўда, у лазні не мыюцца ўжо два гады.

У гэтай мясцовасці і разгарнуліся падзеі, пра якія пойдзе гаворка далей.

*18 сакавіка 1916 года часці Паўднёвай групы 2-й рускай арміі спрабавалі пераадолець нямецкія ўмацаванні паміж азёрамі Нарач і Вішнеўскае. Але ўжо ў пачатку атакі некаторыя падраздзяленні патрапілі пад агонь уласнай артылерыі. Такая няўзгодненасць дзеянняў была аплачана жыццямі многіх рускіх салдат. Вынікам першага дня наступлення сталі велізарныя страты з боку рускіх, зафіксаваныя ў архіўных дакументах: "Страты ў асабовым саставе Другой арміі за 18 сакавіка 1916 года: 22-я пяхотная дывізія – 49 афіцэраў і 5547 салдат, 1-ы сібірскі корпус – 33 афіцэры і 3206 салдат, 5-ы армейскі корпус – 80 афіцэраў і 4102 салдаты, 36-ы армейскі корпус – 19 афіцэраў і 2030 салдат".*

19 сакавіка ўпершыню ў час Нарачанскай ваеннай аперацыі была ўжытая хімічная зброя. Нямецкая артылерыя абстраляла рускія пазіцыі, размешчаныя на паўночны ўсход ад возера Вішнеўскае, снарадамі з атрутнымі рэчывамі. Па словах мясцовых жыхароў, перад абстрэлам немцы спрабавалі захапіць штаб, размешчаны ў раёне вёскі Старадубава. Аднак вецер рэзка змяніў кірунак, і воблака атрутнага рэчыва пасунулася на нямецкія пазіцыі. Пачалася паніка, салдаты пабеглі, некалькі фурманак з хімічнымі боепрыпасамі з'ехалі з гаці (насціл з бярвенняў праз балота) і патанулі ў дрыгве.

Па словах мясцовых жыхароў, дастаць іх немцам не атрымалася. З таго часу ўрочышча носіць назву Снарады. Магчыма, боепрыпасы і сёння знаходзяцца там, свайго роду хімічная міна, якая рана ці позна павінна выбухнуць. А я ж у гэтых мясцінах у дзяцінстве з мамай збіраў журавіны. На камяні, які ляжаў на краі гаці, знайшоў два патроны ад вінтоўкі. Калі прынёс іх дадому, тата сказаў, што яны ад трохлінейкі, выламаў кулі, высыпаў порах і закінуў у крапіву.

Салдат, якія загінулі ў выніку атручэння, было шмат з абодвух бакоў. Пахаваныя яны на адных могілках паміж вёскамі Золькі і Муляры. Вось так, стралялі, калолі, атручвалі адзін аднаго, а цяпер ляжаць побач і думаюць: навошта? Дзеля амбіцый бяздарных кіраўнікоў дзвюх імперый, якія адышлі ў стагоддзі, але сабралі свой крывавы ўраджай, багата паліты слязьмі калек, удоў і сірот.

**Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.**



Фота забяспечана Францам МЛЕЧКАМ.

**Казік Смаленскі з прыфрантавой вёскі Старадубава (маленькі хлопчык у першым радзе) з салдатамі рускай арміі. 1914 –1917 гг. Здымак захаваўся ў сям'і Соф'і Смаленскай (Млечка) з Вілейкі.**

**Даведка "РГ":** У час Першай сусветнай вайны хімічная зброя ўпершыню была выкарыстаная нямецкімі войскамі ў красавіку 1915 года супраць французаў каля бельгійскага горада Іпр. Ад уздзеяння газападобнага хлору (каля 180 тон) пацярпела звыш 15 тысяч чалавек, з якіх больш за пяць тысяч памерлі пасля бою, а большасць з тых, хто выжыў, засталася інвалідамі. У далейшым пры хімічных атаках прымяняўся таксама вадкі хлор з фасгенам (атрутнае і ўдушлівае рэчыва). Верагодна, падобная роду хімічная зброя выкарыстоўвалася ў час Нарачанскай аперацыі 1916 года.

# Ёсць і другая частка гэтай гісторыі

## Шэсць пудоў золата на беразе Вішнеўскага

**Сярод мясцовых жыхароў і сёння жывая гісторыя пра шэсць пудоў золата, схаваных непадалёк ад Вішнеўскага возера.**

У аднаго генерала паўднёвай групы 2-й рускай арміі, назавем яго Б., за нялёгкую службу на перадавой сабралася шэсць пудоў золата і каштоўнасцяў. Бо для каго вайна, а для каго матка родная. Ні ў якім разе не хачу прыкуўдзіць удзельнікаў бітваў – у самога дзед вояваў каля Вішнеўскага, іграў у палкавым аркестры на трубе (аркестр хадзіў разам з усімі ў штыкавыя атакі).

У 1917 годзе на фронце з-за актыўнай антываеннай агітацыі з боку рэвалюцыйных партый і папулісцкай палітыкі Часовага ўраду руская армія раскладалася і траціла баяздольнасць. Шматматорныя нямецкія бамбардзіроўшчыкі рэгулярна праводзілі бамбардзіроўкі рускіх пазіцый і тылавых аб'ектаў. Адным словам, падаваў хаос.

Генерал Б. вырашыў прыхаваць нажытае да лепшых часоў. Яго дзяншчык з Мазыра (прозвішча невядомае) выбраў некалькі прыкметных дрэў, пад якімі закапаў артылерыйскую скрыню з каштоўнасцямі. Генерал Б. згубіўся ў віры Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Пасля рэвалюцыі ў 1917 годзе дзеншчыка, як памагатага белым, арыштавалі і накіравалі ў турму ў Навагрудак, дзе яго ў 1918-м вызвалілі палякі. У 20-м ён вярнуўся на радзіму ў Мазыр.

Жыў бы ён сабе ды жыў, але, што называецца, пацягнуў яго д'ябал паспрабаваць адкапаць каштоўнасці. У 1950-х гадах, прыхапіўшы з сабой ужо дарослага сына, ён накіраваўся на берагі Вішнеўскага. Аднак адны дрэвы выраслі, іншыя зрэзалі, таму адразу месца скарбу знайсці не атрымалася. Засталіся начаваць.

У той час з'яўленне новых людзей не магло прайсці незаўважаным, таму ўжо на другі дзень бацьку і сына арыштавала НКВД. Змясцілі іх ў Вілейскую турму, дзе пачаліся дапытваць: хто і адкуль? Што было далей, навечна пахаваная ў камеры допытаў. Але, як вынік, дзеншчыка прыгаварылі да расстрэлу, а сыну далі 25 гадоў лагераў.

Мясцовыя жыхары расказвалі, што бацьку і сына некалькі разоў прывозілі на грузавіку на бераг Вішнеўскага, дзе вязні закладвалі шурфы, капалі ямы. Але, як казалі старыя людзі, скарб не даўся.

У снежні мінулага года я сам пабываў у гэтых мясцінах. Маркуючы па свежых ямах, пошукі скарбу працягваюцца. Вясковым жыхарам часам сустракаюцца падазроныя асобы з металадэтэктарамі наперавес. Па мне, няхай шукаюць. Толькі б не натыркнуліся на снарады...

Ігар КІЦІКАЎ.
E-mail: vgptk@minsk-region.edu.by

КАЛЯНДАР

**31 студзеня.** 95 гадоў назад (1919) выйшла пастанова Прэзідыума Усерасійскага Цэнтральнага выканаўчага камітэта "Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі".

***

**1 лютага.** 110 гадоў з дня нараджэння Рыгора Качаткова (1904 – 1968), рускага акцёра, народнага артыста Узбекістана, народнага артыста Беларусі.

***



**6 лютага.** 100 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Куляшова (1914 – 1978), народнага паэта Беларусі, заслужанага работніка культуры Украіны.

***

**70 гадоў** назад (1944) адноўленае выданне часопіса "Беларусь" (раней меў назву "Чырвоная Беларусь").

***

**50 гадоў** таму (1964) па ініцыятыве старшыні выканкама Рускасельскага сельсавета Аляксандра Фёдаравіча Грузда вёска Дзёхаўка названая Набярэжнай.

***

**40 гадоў** таму (1974) калгаснікам пачалі выдаваць пашпарты, што давала ім права пакінуць вёску і калгас ды перасяліцца ў горад на сталае жыхарства.

***

**510 гадоў** назад (1504) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца в. Будслаў (Буда, Буцлаў, Будцлаў) Мядзельскага раёна.

***

**560 гадоў** назад (1454) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Стары Мядзел (цяпер г. Мядзел Мінскай вобласці).

***

**910 гадоў** з часу першага летапіснага ўпамінання (1104) аб Мінску як цэнтры Мінскага княства.

***

**910 гадоў** з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай (свецкае імя Прадслава, каля 1104 – 1173), беларускай асветніцы, ігуменні Полацкага манастыра св. Спаса.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

**Папраўка**

У мінулым нумары ў публікацыі аб Уладзіславе Страмінскім у абзацы, які пачынаецца словамі "Сітуацыя бацькоў...", размова ідзе аб каляднай, а не велікоднай ёлачцы. Просім прабачэння ў чытачоў.



 

# Месяцавы каляндар

## садавода і агародніка на 2014 год

## Першае паўгоддзе



**Штогодні традыцыйны месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2014 год. Улік квадраў Месяца, становішча Месяца ў знаках задыяка. Рэкамендацыі для садаводаў і агароднікаў. Уплыў неспрыяльных, у тым ліку сатанінскіх дзён. Новае: парады і падказкі траўнікам і грыбнікам.**

**Заўсёды памятайце, што на добрыя вынікі ў агароднай справе і ў садзе ўплываюць не толькі тэрміны правядзення работ, але таксама і агульныя ўмовы вегетацыі раслін. Звяртайце ўвагу на надвор'е. Арыентуйцеся на агратэхнічныя рэкамендацыі. Комплекснае прымяненне агратэхнічных канонаў і парад месяцавага календара дазволіць парадаваць сябе і сваіх блізкіх добрым ураджаем.**

### Люты

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1, 2 | Сяўба зеляніны і гародніны на падваконні або ў зімовых цяпліцах. Паліванне, ўнясенне угнаенняў |
| 3, 4 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 5, 6 | Сяўба зеляніны, а таксама сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 7-9 | Рыхленне глебы і барацьба са шкоднікамі |
| 10, 11 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба гародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |
| 12-15 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка** |
| 16 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін, унясенне ўгнаенняў, барацьба са шкоднікамі глебы |
| 17-19 | Сяўба зеляніны і сяўба цыбульных кветак для вырошчвання ў зімовай цяпліцы. Паліванне, рыхленне глебы, падкормліванне кветак |
| 20,21 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліванне, рыхленне глебы і падкормліванне кветак |
| 22,23 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 24,25 | Пасадкі на насенне. Рыхленне глебы, барацьба са шкоднікамі глебы |
| 26,27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка** |
| 28 | Сяўба радысу, цыбульных на падваконні ці ў зімовых цяпліцах. Выдатны час для культывацыі, палівання і ўнясення ўгнаенняў |

### Сакавік

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу – узворванне, рыхленне, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне |
| 2, 3 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне |
| 4-7 | Сяўба салаты і капусты. Абразанне дрэў і кустоў |
| 8-10 | Выдаленне лішніх атожылкаў, праполка, мульчыраванне, добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 11-13 | Сяўба на расаду памідораў, капусты, агуркоў, перцу. У адкрытую глебу – салаты, пятрушкі, кропу, рабарбару |
| 14-16 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць на насенне.** Саджайце астры, крокусы, вяргіні, гладыёлусы, касачы. Рыхленне, культывацыя, абворванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 17, 18 | Сяўба клубневых культур (бульбы, рэпы, радысу) |
| 19, 20 | Сяўба большасці клубневых культур, акрамя бульбы. Не рэкамендуецца саджаць дрэвы. Эфектыўныя абрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпліванне, унясенне ўгнаенняў, паліванне, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |
| 21, 22 | Будзьце асцярожныя пры любых садова-агародных работах. Культывацыя, праполка, знішчэнне шкоднікаў |
| 23-25 | **Не рэкамендуюцца перасадка кветак.** Час спрыяльны для пасадкі бульбы, радысу, бручкі, рэпы |
| 26, 27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Рабіце апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў і кустоў |
| 28, 29 | Пасадкі сельдэрэю, радысу, цыбульных, высадка расады ў глебу, падрэзка і прышчэпліванне дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, палівання і ўнясення ўгнаенняў |
| 30, 31 | Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне |

### Красавік

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1, 2 | Сяўба салаты і капусты. Абразанне дрэў і кустоў |
| 3-5 | Сяўба бабовых і павойных раслін (руж, якія плятуцца, суніц, вінаграду). Выдаленне лішніх атожылкаў, праполка, мульчыраванне, добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 6, 7 | Сяўба большасці культур: памідораў, капусты, агуркоў, перцу, бахчавых, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў, гарбузоў |
| 8-10 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Спрыяльны час для падрыхтоўкі град і газонаў да сяўбы, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 11,12 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць насенне.** Рыхленне, культывацыя, абворванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 13,14 | Пасадка костачкавых фруктовых дрэў, стручковых культур (гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы), а таксама ўсіх кветак |
| 15 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Эфектыўныя прышчэпліванне, унясенне ўгнаенняў, паліванне, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы |
| 18,19 | Будзьце асцярожныя пры любых садова-агародных работах. Культывацыя, праполка, знішчэнне шкоднікаў |
| 20,21 | **Не рэкамендуюцца перасадка кветак.** Час спрыяльны для пасадкі бульбы, радысу, бручкі, рэпы |
| 22,23 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Рабіце апырскванне і абкурванне, падстрыганне дрэў і кустоў, праполка |
| 24,25 | Пасадкі сельдэрэю, радысу, цыбульных, высадка расады ў глебу, падрэзка і прышчэпліванне дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, палівання і ўнясення ўгнаенняў. Яравізацыя бульбы |
| 26,27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне |
| 28 | Сяўба ўсіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур. Падстрыганне дрэў і кустоў |
| 29 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі** |
| 30 | Сяўба салаты і капусты. Абразанне дрэў і кустоў |

### Май

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1, 2 | Сяўба бабовых і павойных раслін (руж, якія плятуцца, суніц, вінаграду). Выдаленне лішніх атожылкаў, праполка, мульчыраванне, добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 3, 4 | Сяўба большасці культур: памідораў, капусты, агуркоў, перцу, бахчавых, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў, гарбузоў. Яравізацыя бульбы |
| 5-7 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Спрыяльны час для падрыхтоўкі град і газонаў да сяўбы, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 8, 9 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць насенне.** Рыхленне, культывацыя, абворванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 10-12 | Пасадка костачкавых фруктовых дрэў, стручковых культур (гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы), а таксама ўсіх кветак |
| 13 | Сяўба большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў. Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпліванне, унясенне ўгнаенняў, паліванне, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы |
| 14 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Эфектыўныя прышчэпліванне, унясенне ўгнаенняў, паліванне, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы |
| 15,16 | Будзьце асцярожныя пры любых садова-агародных работах. Культывацыя, праполка, знішчэнне шкоднікаў |
| 17,18 | **Не рэкамендуюцца перасадка кветак.** Час спрыяльны для пасадкі бульбы, радысу, бручкі, рэпы. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпліванне дрэў |
| 19,20 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Рабіце апырскванне і абкурванне, падстрыганне кустоў, праполка |
| 21,22 | Пасадка сельдэрэю, радысу, цыбульных, высадка расады ў глебу, падрэзка і прышчэпліванне дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, палівання і ўнясення ўгнаенняў |
| 23-25 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне |
| 26-27 | Сяўба усіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур. Падстрыганне дрэў і кустоў |
| 28 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне |
| 29 | Сяўба бабовых і павойных раслін (руж, якія плятуцца, суніц, вінаграду). Выдаленне лішніх атожылкаў, праполка, мульчыраванне, добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 30 | Сяўба большасці культур: памідораў, капусты, агуркоў, перцу, бахчавых, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў, гарбузоў |

### Чэрвень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Сяўба і перасадка большасці культур: бахчавых, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў, гарбузоў. Добра развіваюцца нізкарослыя расліны, горш – высокія, бо сцябло набывае сярэднюю трываласць (таму не рэкамендуецца саджаць высокія гатункі памідораў) |
| 2, 3 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Варта правесці касьбу дзеля запавольвання росту травы. Спрыяльны час для падрыхтоўкі град і газонаў да сяўбы, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 4-6 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, праводзіць сяўбу на насенне.** Добра прымуцца дэкаратыўныя расліны, якія не прызначаныя для пладанашэння: бружмель, шыпшына і інш. Саджайце павойныя расліны. Касьба запаволіць рост травы |
| 7, 8 | Сяўба кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Сяўба костачкавых фруктовых дрэў. Эфектыўныя паліванне і касьба. Цудоўны час для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў, догляду за пакаёвымі раслінамі |
| 9, 10 | Сяўба большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў. **Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпліванне, унясенне ўгнаенняў, паліванне, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |
| 11, 12 | Сяўба культур, што хутка растуць: зеляніны, цыбулі, часнаку, перцу, лекавых траў – на насенне, а таксама суніц, шпінату, шыпшыны, бружмелі, слівы. Збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Пасаджаныя ў гэты дзень пакаёвыя кветкі хутчэй расцвітаюць |
| 13, 14 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпліванне дрэў, касьба |
| 15, 16 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Збірайце збожжавыя і карняплоды, добра касіць, праводзіць апырскванне і абкурванне, падстрыганне дрэў і кустоў, прышчыкванне, праполка |
| 17-19 | Сяўба сельдэрэю, радысу, цыбульных, падрэзка і прышчэпліванне дрэў і ягадных кустоў. Варыце варэнне і рабіце засолку. Выдатны час для культывацыі, палівання і ўнясення ўгнаенняў |
| 20, 21 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. Збор ураджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых і эфіраалейных культур, сушка гародніны і садавіны |
| 22, 23 | Сяўба ўсіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур. Падстрыганне дрэў і кустоў. Садавіна, ягады і агародніна, знятыя ў гэты час, прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 24-26 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка травяністых культур.** Эфектыўныя выдаленне лішніх атожылкаў, касьба, праполка, культывацыя, мульчыраванне. Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадкі.** Рэкамендуюцца збор і сушка садавіны і караняплодаў. Спрыяльны час для мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення сланечніку, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 28 | Сяўба і перасадка большасці культур: бахчавых, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў, гарбузоў. Добра развіваюцца нізкарослыя расліны, горш – высокія, бо сцябло набывае сярэднюю трываласць (таму не рэкамендуецца саджаць высокія гатункі памідораў) |
| 29, 30 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Сяўба кустоў і дрэў, збор і сушка садавіны і караняплодаў. Варта правесці касьбу дзеля запавольвання росту травы. Спрыяльны час для мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення сланечніку, нарыхтоўкі лекавых траў |

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**

**Каляндар на другое паўгоддзе будзе ў наступным нумары.**

# Праходжанне Месяцам знакаў задыяка ў 2014 годзе (час мясцовы)

| Знак задыяка | Студзень | | Люты | | Сакавік | | Красавік | | Май | | Чэрвень | | Ліпень | | Жнівень | | Верасень | | Кастрычнік | | Лістапад | | Снежань | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Авен** | **6** | 22:45 | **3** | 7:54 | **2** | 18:38 | **26** | 13:00 | **23** | 19:01 | **20** | 0:25 | **17** | 7:06 | **13** | 16:00 | **10** | 2:33 | **7** | 13:06 | **1** | 19:36 | **1** | 4:13 |
| | | | | | **30** | 4:53 | | | | | | | | | | | | | | | **29** | 1:03 | **28** | 9:35 |
| **Цялец** | **9** | 5:23 | **5** | 12:46 | **4** | 22:12 | **1** | 8:20 | **26** | 0:27 | **22** | 6:03 | **19** | 11:42 | **15** | 18:57 | **12** | 4:16 | **9** | 14:43 | **3** | 21:53 | **3** | 8:14 |
| | | | | | | | **28** | 17:23 | | | | | | | | | | | | | | | **30** | 13:55 |
| **Блізняты** | **11** | 15:25 | **7** | 21:43 | **7** | 5:37 | **3** | 14:47 | **28** | 7:47 | **24** | 14:05 | **21** | 19:35 | **18** | 1:41 | **14** | 9:26 | **11** | 18:51 | **6** | 0:33 | **5** | 13:28 |
| | | | | | | | **30** | 23:55 | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **Рак** | **14** | 3:24 | **10** | 9:32 | **9** | 16:39 | **6** | 0:39 | **3** | 9:12 | **27** | 0:05 | **24** | 5:59 | **20** | 11:44 | **16** | 18:24 | **14** | 2:30 | **8** | 4:44 | **7** | 20:34 |
| | | | | | | | | | **30** | 17:13 | | | | | | | | | | | | | | |
| **Леў** | **16** | 16:00 | **12** | 22:15 | **12** | 5:08 | **8** | 12:50 | **5** | 20:55 | **2** | 4:43 | **26** | 17:54 | **22** | 23:49 | **19** | 6:09 | **16** | 13:29 | **10** | 11:37 | **10** | 6:14 |
| | | | | | | | | | | | **29** | 11:42 | | | | | | | | | | | | |
| **Дзева** | **19** | 4:23 | **15** | 10:25 | **14** | 17:17 | **11** | 1:07 | **8** | 9:23 | **4** | 17:19 | **2** | 0:23 | **25** | 12:32 | **21** | 18:53 | **19** | 2:07 | **12** | 21:44 | **12** | 18:18 |
| | | | | | | | | | | | | | **29** | 6:36 | | | | | | | | | | |
| **Шалі** | **21** | 15:43 | **17** | 21:22 | **17** | 3:45 | **13** | 11:33 | **10** | 20:19 | **7** | 5:00 | **4** | 12:42 | **28** | 0:54 | **24** | 6:59 | **21** | 14:11 | **15** | 10:08 | **15** | 7:04 |
| | | | | | | | | | | | | | **31** | 19:09 | | | | | | | | | | |
| **Скарпіён** | **24** | 0:43 | **20** | 6:32 | **19** | 12:13 | **15** | 19:19 | **13** | 4:06 | **9** | 13:38 | **6** | 22:33 | **3** | 5:56 | **26** | 17:29 | **24** | 0:09 | **17** | 22:29 | **17** | 17:51 |
| | | | | | | | | | | | | | | | **30** | 11:52 | | | | | | | | |
| **Стралец** | **26** | 6:12 | **22** | 13:11 | **21** | 18:38 | **18** | 0:43 | **15** | 843 | **11** | 18:23 | **9** | 4:24 | **5** | 13:18 | **1** | 20:16 | **26** | 7:39 | **20** | 8:30 | **20** | 0:55 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | **29** | 1:50 | | | | | | |
| **Казярог** | **28** | 8:04 | **24** | 16:50 | **23** | 23:03 | **20** | 4:27 | **17** | 11:11 | **13** | 20:04 | **11** | 6:24 | **7** | 16:38 | **4** | 1:14 | **1** | 7:40 | **22** | 15:19 | **22** | 4:25 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | **28** | 13:03 | | | | |
| **Вадалей** | **2** | 20:02 | **26** | 17:55 | **26** | 1:38 | **22** | 7:17 | **19** | 12:57 | **15** | 20:27 | **13** | 6:06 | **9** | 16:51 | **6** | 2:58 | **3** | 10:59 | **24** | 19:31 | **24** | 5:52 |
| | **30** | 7:33 | | | | | | | | | | | | | | | | | **30** | 16:51 | | | | |
| **Рыбы** | **4** | 19:58 | **1** | 6:44 | **28** | 3:10 | **24** | 9:55 | **21** | 15:18 | **17** | 21:25 | **15** | 5:40 | **11** | 15:55 | **8** | 2:46 | **5** | 12:24 | **26** | 22:22 | **26** | 7:06 |
| | | | **28** | 17:52 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

## Квадры Месяца (час мясцовы)

| | Студзень | | Люты | | Сакавік | | Красавік | | Май | | Чэрвень | | Ліпень | | Жнівень | | Верасень | | Кастрычнік | | Лістапад | | Снежань | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Маладзік** | **1** | 14:15 | | | **1** | 11:00 | **29** | 9:15 | **28** | 21:41 | **27** | 11:09 | **27** | 1:42 | **25** | 17:13 | **24** | 9:15 | **24** | 0:58 | **22** | 15:33 | **22** | 4:37 |
| | **31** | 0:39 | | | **30** | 21:45 | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **Першая чвэрць** | **8** | 6:40 | **6** | 22:22 | **8** | 16:27 | **7** | 11:31 | **7** | 6:16 | **5** | 23:40 | **5** | 15:00 | **4** | 3:51 | **2** | 14:12 | **1** | 22:33 | **29** | 13:07 | **28** | 21:53 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | **31** | 5:49 | | | | |
| **Поўня** | **16** | 7:53 | **15** | 2:54 | **16** | 20:09 | **15** | 10:43 | **14** | 22:17 | **13** | 7:12 | **12** | 14:26 | **10** | 21:10 | **9** | 4:39 | **8** | 13:51 | **7** | 1:23 | **6** | 15:27 |
| **Апошняя чвэрць** | **24** | 0:43 | **22** | 20:16 | **24** | 4:47 | **22** | 10:52 | **21** | 16:00 | **19** | 20:26 | **19** | 5:09 | **17** | 15:26 | **16** | 5:05 | **15** | 22:13 | **14** | 18:16 | **14** | 15:52 |

# Садоўніцтва і агародніцтва ў залежнасці ад фазы Месяца

### Фазы Месяца:

**Маладзік.** Доўжыцца тры дні разам з днём да даты маладзіка і на наступны дзень пасля даты маладзіка.

**1-я квадра.** Час ад маладзіка, калі Месяц нябачны, аж да асвятлення паловы паверхні – Месяц расце.

**2-я квадра.** Перыяд ад асвятлення паловы паверхні Месяца аж да поўні, калі Месяц поўнасцю бачны – Месяц расце.

**Поўня.** Працягваецца тры дні: разам з днём перад датай поўні і днём пасля даты поўні.

**3-я квадра.** Перыяд ад поўні, калі Месяц бачны цалкам, да закрыцця паловы яго паверхні – Месяц меншае.

**4-я квадра.** Ад часу, калі бачна палова паверхні Месяца, да маладзіка, калі Месяц становіцца нябачным – Месяц меншае.

### Калі Месяц меншае (3-я і 4-я квадры)

Лепшы час для перасадкі і абрэзкі дрэў. Расліны хутчэй аднаўляюцца і прыжываюцца на новым месцы, а падрэзаныя губляюць менш сокаў. У гэты час наземныя часткі расліны малаадчувальныя да пашкоджанняў.

Рэкамендуюцца сяўба, пасадка цыбульных раслін, бабовых, караняплодаў, барацьба з пустазеллем і шкоднікамі. Гэта спрыяльны час для збору фруктаў і агародніны, прызначаных на доўгае захоўванне, – яны будуць даўжэй заставацца свежымі. Гэтак жа і са зрэзанымі кветкамі, яны застануцца свежымі даўжэй.

### Калі Месяц расце (1-я і 2-я квадры)

Час спрыяльны для сяўбы і пасадкі ліставой агародніны і пладовых дрэў і кустоў. Добрая пара для падрыхтоўкі расады, прышчэпак і работ, звязаных з глебай, – угнойванне і падкормка. Карані раслін найменш уразлівыя на розныя пашкоджанні. Калі вы рашыліся на абрэзку, то яна не павінна быць вельмі інтэнсіўнай, бо гэта можа стаць прычынай страты раслінай сокаў.

Добры час для збору пладоў і агародніны для непасрэднага спажывання – у гэты час яны маюць найбольшую харчовую вартасць і самыя смачныя. Таксама і на збор зёлак – як траў, так прыправаў і спецый. Яны найбольш пахучыя і карысныя.

**Калі Месяц у поўні.** Сяўба гародніны: капусты, морквы, цыбулі і радыскі. Добры час для пасадкі бульбы, памідораў і г.д. Найлепшы час для ўгнойвання раслін і такіх працэдур, як праполка, барацьба з пустазеллем і шкоднікамі, рыхленне, прарэджванне новых раслін. Не трэба актыўна абразаць дрэвы і кусты, рабіць прышчэпкі. У саму поўню лепш нічога не садзіць і не сеяць.

**Маладзік.** Самы час для эфектыўнай барацьбы з хваробамі раслін, шкоднікамі. Гэта таксама час на знішчэнне пустазелля, хворых і непатрэбных парасткаў. Работы павінны праводзіцца за дзень перад кульмінацыяй маладзіка ці днём пазней, пасля яе.

Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка раслін і любыя працы, якія б маглі пашкодзіць карані (напрыклад, рыхленне).

### Сатанінскія дні

Не займайцеся важнымі агароднымі справамі ў сатанінскія дні, бо вялікага плёну вы не дачакаецеся.

**Гэта 9-ы, 15-ы, 23-ы і 29-ы месяцавыя дні.** У гэтыя дні, раяць астролагі, трэба быць асабліва абачлівымі, не займацца важнымі і адказнымі справамі. Калі гэта спраектаваць на садаводства і агародніцтва, то зразумела, што трэба пазбягаць адказных і важных работ у садзе і агародзе. У першую чаргу гэта сяўба і ўсе работы, звязаныя з закладкай новага ўраджаю. Перачакайце гэты час і зрабіце запланаванае крыху пазней.

| Дзень | Пачатак | | Заканчэнне | |
|---|---|---|---|---|
| | Дата | Час | Дата | Час |
| **Студзень** | | | | |
| **29** | 31.12.13 | 7:53 | 01.01.14 | 8:50 |
| **9** | 09.01.14 | 12:48 | 10.01.14 | 13:17 |
| **15** | 15.01.14 | 17:07 | 16.01.14 | 18:08 |
| **23** | 24.01.14 | 1:59 | 25.01.14 | 3:11 |
| **29** | 30.01.14 | 8:06 | 31.01.14 | 0:39 |
| **Люты** | | | | |
| **9** | 07.02.14 | 11:53 | 08.02.14 | 12:31 |
| **15** | 13.02.14 | 17:03 | 14.02.14 | 18:08 |
| **23** | 22.02.14 | 2:08 | 23.02.14 | 3:16 |
| **29** | 28.02.14 | 7:07 | 01.03.14 | 7:35 |
| **Сакавік** | | | | |
| **29** | 28.02.14 | 7:07 | 01.03.14 | 7:35 |
| **9** | 09.03.14 | 12:00 | 10.03.14 | 12:53 |
| **15** | 15.03.14 | 18:09 | 16.03.14 | 19:18 |
| **23** | 24.03.14 | 3:06 | 25.03.14 | 3:53 |
| **29** | 30.03.14 | 6:25 | 30.03.14 | 21:45 |
| **Красавік** | | | | |
| **9** | 07.04.14 | 11:41 | 08.04.14 | 12:41 |
| **15** | 13.04.14 | 18:11 | 14.04.14 | 19:23 |
| **23** | 22.04.14 | 2:33 | 23.04.14 | 3:07 |
| **29** | 28.04.14 | 5:19 | 29.04.14 | 5:47 |
| **Май** | | | | |
| **9** | 07.05.14 | 12:34 | 08.05.14 | 13:59 |
| **15** | 13.05.14 | 19:28 | 14.05.14 | 20:41 |
| **23** | 22.05.14 | 2:08 | 23.05.14 | 2:33 |
| **29** | 28.05.14 | 4:54 | 28.05.14 | 21:41 |
| **Чэрвень** | | | | |
| **9** | 05.06.14 | 12:29 | 06.06.14 | 13:36 |
| **15** | 11.06.14 | 19:30 | 12.06.14 | 20:38 |
| **23** | 20.06.14 | 1:04 | 21.06.14 | 1:28 |
| **29** | 26.06.14 | 4:18 | 27.06.14 | 5:09 |
| **Ліпень** | | | | |
| **9** | 05.07.14 | 13:35 | 06.07.14 | 14:44 |
| **15** | 11.07.14 | 20:17 | 12.07.14 | 21:04 |
| **23** | 20.07.14 | 0:27 | 21.07.14 | 0:59 |
| **29** | 26.07.14 | 4:58 | 27.07.14 | 1:42 |
| **Жнівень** | | | | |
| **9** | 03.08.14 | 13:39 | 04.08.14 | 14:47 |
| **15** | 09.08.14 | 19:35 | 10.08.14 | 20:11 |
| **23** | 17.08.14 | 23:37 | 19.08.14 | 0:17 |
| **29** | 24.08.14 | 4:55 | 25.08.14 | 5:59 |
| **Верасень** | | | | |
| **9** | 02.09.13 | 14:47 | 03.09.14 | 15:48 |
| **15** | 08.09.14 | 19:08 | 09.09.14 | 19:35 |
| **23** | 16.09.14 | 23:51 | 18.09.14 | 0:46 |
| **29** | 23.09.14 | 5:59 | 24.09.14 | 7:05 |
| **Кастрычнік** | | | | |
| **9** | 02.10.14 | 15:22 | 03.10.14 | 16:01 |
| **15** | 08.10.14 | 18:27 | 09.10.14 | 18:57 |
| **23** | 17.10.14 | 0:35 | 18.10.14 | 1:39 |
| **29** | 23.10.14 | 7:07 | 24.10.14 | 0:58 |
| **9** | 31.10.14 | 14:38 | 01.11.14 | 15:07 |
| **Лістапад** | | | | |
| **9** | 31.10.14 | 14:38 | 01.11.14 | 15:07 |
| **15** | 06.11.14 | 17:26 | 07.11.14 | 18:01 |
| **23** | 15.11.14 | 0:28 | 16.11.14 | 1:32 |
| **29** | 21.11.14 | 7:09 | 22.11.14 | 8:18 |
| **9** | 30.11.14 | 14:06 | 01.12.14 | 14:31 |
| **Снежань** | | | | |
| **9** | 30.11.14 | 14:06 | 01.12.14 | 14:31 |
| **15** | 06.12.14 | 17:19 | 07.12.14 | 18:09 |
| **23** | 15.12.14 | 1:26 | 16.12.14 | 2:31 |
| **29** | 21.12.14 | 8:10 | 22.12.14 | 4:37 |
| **9** | 29.12.14 | 13:03 | 30.12.14 | 13:30 |

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# У хакей гуляюць неабыякавыя мужчыны



Фота Наталлі ТУР.

Гульцы каманды "Лядовыя пінгвіны" з дзецьмі з сацыяльна-педагагічнага цэнтра.



Фота Наталлі ТУР.

Выхаванка цэнтра Насця Радзівіловіч.



Фота Наталлі ТУР.

Канькі, што падарылі хакеісты, выхаванцы адразу паспрабавалі ў справе.

**МАЛАДЗЕЧНА. Гульцы каманды "Лядовыя пінгвіны" ў пятніцу, 24 студзеня, зладзілі дабрачынны матч.**

Напярэдадні яны звярнуліся да ўсіх сваіх заўзятараў і проста прыхільнікаў хакея з просьбай дапамагчы дзецям, якія апынуліся ў няпростым жыццёвым становішчы. Рэчы, якія прынеслі заўзятары, хакеісты ў панядзелак перадалі дзецям з сацыяльна-педагагічнага цэнтра.

Маленькія выхаванцы цэнтра чакалі хакеістаў з самай раніцы. Калі я спытала, ці бачылі яны, як гуляюць у хакей у жывую, адказалі, што не. Надта ж позна пачынаюцца матчы маладзечанскай каманды!

– Цяпер у нашым цэнтры 18 дзетак, самаму малодшаму – чатыры гадкі, старэйшаму – 14, – расказвае намеснік дырэктара сацыяльна-педагагічнага цэнтра **Таццяна Шчэбет**, – але ўсе, незалежна ад узросту, заўсёды чакаюць гасцей. Бывае, з самай раніцы пытаюцца, а хто прыйдзе да нас сёння. Для дзяцей важнымі з'яўляюцца зусім не падарункі, што шчодра прыносяць нашы наведнікі, а магчымасць пагутарыць, пазнаёміцца з новымі людзьмі, расказаць ім пра сябе. Дзеці, якія абдзеленыя цяплом і ўвагай дома, тут раскрываюцца і аддаюць у тысячу разоў больш.

**– Ці часта да вас прыходзяць госці?**

– Так, увагай мы не абдзеленыя. Аднак мяне здзіўляе тое, як многа ў нас у горадзе неабыякавых людзей. На навагоднія святы да нас у цэнтр прыходзілі людзі, якія прыносілі дарагія падарункі, цукеркі, і нават не называлі сваё імя. Галоўнае, што яны проста шчырыя і добрыя людзі. Так, як і нашы сённяшнія госці. Хлопцы з каманды "Лядовыя пінгвіны" самі знайшлі нас, прапанавалі сваю дапамогу, за што ад нашага калектыву дарослых і дзяцей ім вялікі дзякуй.

**Сяргей Гайдукевіч**, хакеіст каманды "Лядовыя пінгвіны", распавёў "Рэгіянальнай газеце", што ўсе гульцы каманды падтрымалі ідэю дабрачыннага матча.

– У нашай камандзе амаль усе хакеісты маюць сваіх дзяцей, таму тут нават і пытання не паўставала, ці варта рабіць такі матч, – гаворыць Сяргей. – Вельмі прыемна тое, што не толькі нас зацікавіла такая акцыя. Нашы сапернікі па гульні, сталічная каманда "IceCity-2 Extra", таксама адгукнуліся на гэтую акцыю, перадалі шмат цацак, спартыўнага інвентару.

**– Гэта першая дабрачынная гульня, ці будзеце і ў далейшым ладзіць нешта падобнае?**

– Абавязкова. Мы прыйшлі сёння да дзяцей і нават трохі разгубіліся. Абавязкова ў наступны раз падрыхтуем і нейкую забаўляльную праграму. Яшчэ да нас адразу пасля матча сталі звяртацца розныя арганізацыі горада. Магчыма, у хуткім часе зладзім яшчэ адну гульню, каб дапамагчы дзеткам-адказнікам з маладзечанскай радзільні.

**– Вы гэты матч выйгралі з лікам 6:1. Ці думаеце, што гэта адбылося таму, што вы сталі рабіць дабро?**

– Добрымі мы заўсёды былі, гэта толькі пінгвін на нашай эмблеме злы, але гэта для таго, каб сапернікі баяліся. А выйграваць заўсёды прыемна, тым больш у такіх матчах.

**Наталля Тур.**

НАВІНЫ

## Каманды з рэгёна не прабіліся ў фінал

**МЯДЗЕЛ.** У мінулыя выхадныя ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры адбыліся занальныя гульні першынства вобласці па міні-футболе сярод ветэранаў (гэта гульцы 40 год і старэйшыя).

За адзіную пуцёўку ў фінал змагаліся чатыры каманды: з Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага і Смалявіцкага раёнаў.

– Турнір паказаў добры ўзровень гульні ветэранаў футбола. Тры каманды былі дастойныя перамогі, толькі мядзяльчане глядзеліся слабейшымі. Але яны ўпершыню прымалі ўдзел у падобных спаборніцтвах, – расказаў дырэктар цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**. – Аднак і мядзяльчане маглі выйграць у віляйчан. За дзве хвіліны да канца матча выйгравалі, але паспелі прапусціць два галы і прайгралі 3:4.

Што да іншых вынікаў, то каманда Вілейскага раёна выйграла ў футбалістаў з Маладзечанскага 3:2 і прайграла гульцам са Смалявічаў 1:5. Маладзечанцы абыгралі мядзяльчан 5:1 і каманду Смалявіцкага раёна 4:3. Каманда з Мядзельскага раёна саступіла прадстаўнікам Смалявіцкага 1:5.

Тры каманды набралі па шэсць ачкоў, і пераможца вызначыўся па розніцы мячоў. Лепшая яна была ў каманды са Смалявічаў, на другім месцы гульцы з Маладзечанскага раёна, на трэцім – з Вілейскага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Маладзечанцы здабылі пуцёўку ў фінал Кубка вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каманда Маладзечанскага раёна па міні-футболе заваявала пуцёўку на фінальныя гульні Кубка Мінскай вобласці. Яны намечаныя на 8-9 лютага, паведамляе сайт Мінскай абласной федэрацыі футбола.

Маладзечанцы сталі пераможцамі занальнага этапу Мінскай вобласці. Турнір у групе "В" праходзіў 18-19 студзеня ў Лагойску. Каманда з Маладзечаншчыны апярэдзіла прадстаўнікоў Стаўбцоўскага, Вілейскага, Мядзельскага і Лагойскага раёнаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Сярод вілейскіх чырлідараў лепшыя "Фарсажыкі"

**ВІЛЕЙКА.** 27 студзеня адбыўся раённы этап рэспубліканскага конкурсу піянерскіх камандаў па чырлідынгу "Піянерскія іскры". Прайшоў ён на базе раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

Чырлідынг – гэта сучасны выгляд спартыўнага танца з элементамі гімнастыкі, які прапагандуе здаровы лад жыцця і пазітыўнае стаўленне паміж людзьмі. Папулярнасць чырлідынгу ў апошні час хутка расце. Гэта новы напрамак цікавы для людзей розных узростаў, у першую чаргу, для дзяцей і падлеткаў. Чырлідары выходзяць на спартыўныя пляцоўкі, каб стварыць атмасферу прыгажосці і прывабнасці.

У конкурсе прынялі ўдзел каманды чырлідараў з вілейскай гімназіі №2, сярэдніх школ №1 і №3, а з вілейскай гімназіі №1 "Логас" былі дзве каманды. Удзельнікі ўразілі сваёй згуртаванасцю, пазітыўнасцю, сінхроннасцю руху, рытмічнасцю і лёгкасцю выканання праграмы.

Пасля працяглых спрэчак члены журы прыйшлі да адзінага меркавання: пераможцам раённага этапу павінна стаць каманда "Фарсажыкі" з вілейскай гімназіі №1 "Логас".

Жадаем "Фарсажыкам" годна прадставіць Вілейскі раён на занальным этапе рэспубліканскага конкурсу піянерскіх камандаў па чырлідынгу, які адбудзецца 22 лютага. У ім возьмуць удзел таксама мацнейшыя каманды Мядзельскага, Валожынскага і Маладзечанскага раёнаў.

**Наталля РЫЖЭВІЧ,**
**намесніца дырэктара Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**



Фота забяспечана Наталляй РЫЖЭВІЧ.

Момант конкурсу чырлідараў.

СПАДЧЫНА

# Двор Стайкі можа запрацаваць у 2015 годзе

**ВІЛЕЙКА. Новы гаспадар разлічвае закончыць турыстычны аб'ект у Стайках у наступным годзе.**

Летась бровар з былой сядзібы Багдановічаў "Двор Стайкі" быў перададзены пад інвестыцыйны праект таварыству "ТрактЦэнтр Азярцо" для рэканструкцыі з рэстаўрацыяй будынка пад канцэртна-выставачную залу. Мы паразмаўлялі з кіраўніком праекта з боку таварыства **Аксанай Волкавай.**

**– Што інвестар паспеў зрабіць на былой сядзібе?**

– Рэалізацыя праекта па аднаўленні бровара была вельмі напружанай, але цікавай. Яна ўключыла планаванне, праектаванне і будаўніцтва. За апошні год зрабілі нямала. Бровар – адзіная гістарычная пабудова сядзібы 18-19 стагоддзяў, якая захавалася. Ён набыў новы змест, але не страціў старадаўні выгляд. Летась мы таксама добраўпарадкоўвалі шляхецкі парк з сажалкамі, каб аднавіць гістарычнае аблічча ўсёй былой сядзібы. Гэта аказалася не менш складаным, але ў нас атрымалася. Цяпер на першы план выйшла праблема захавання ў парку стайні і склепа, разбураных часам.

Распрацоўваем праект комплексу ў былой сядзібе. Ён будзе камфартабельны і сучасны. Пабудуем гасцініцу, правядзём лінію электраперадач, водаправод і пры гэтым захаваем чароўнасць даўніны.

**– Чаго чакаць будучым гасцям?**

– Стаецкі двор пасля аднаўлення і рэканструкцыі дазволіць гасцям не толькі сузіраць захаваную арыгінальную архітэктуру бровара, стайні і склепа, як у музеі, але і актыўна бавіць час ці проста паблукаць па сцяжынках парку.

Да канца 2015 года чакаем завяршэння работ, але аб'екты будзем уводзіць у эксплуатацыю паступова.

Пасля рэканструкцыі тут можна будзе ладзіць фестывалі, прысвечаныя гістарычным датам і падзеям, мерапрыемствы культурнага, спартыўнага, гістарычнага, этнаграфічнага і дзелавога кірунку. Двор стане цудоўным месцам для конкурсаў, канцэртаў, карнавалаў, спектакляў, канферэнцый, форумаў, выстаў. Госці будуць бавіць час сярод чароўнага старадаўняга пейзажу з матывамі нацыянальных традыцый.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Больш фота глядзіце на сайце Rh.by**



Фота забяспечана Дзянісам КАНЕЦКІМ.

Бровар у Стайках хутка ажыве.

ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

## Чаго вы цяпер чакаеце найбольш?

| | |
|---|---|
| 29% | Кахання |
| 22% | Вясны |
| 17% | Грошай |
| 14% | Развязкі падзей у Кіеве |
| 7% | Калі звалю з работы |
| 5% | Чацвертага сезона "Гульні тронаў" (ці іншага серыяла) |
| 3% | Адпачынку на Канарах |

Усяго галасоў 57

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Новы калабок"**, П.Васючэнка
26 студзеня – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 1 | 9 | 2 | | | | | 4 |
| | | | | | 9 | 5 | | |
| | | 8 | | | | | 1 | 6 |
| | | 6 | | | 3 | | 9 | |
| 9 | | | | | | | | 3 |
| | 7 | | 6 | | | 1 | | |
| 7 | 9 | | | | | 3 | | |
| | | 1 | 5 | | | | | |
| 5 | | | | | 7 | 8 | 6 | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

ПРЭМ'ЕРА! Спартыўная драма **"Чэмпіёны"** (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
31 студзеня – у 21.00
1 лютага – у 16.30, 21.00
2 лютага – у 14.30, 19.00
3 лютага – у 19.00
4 лютага – у 21.00
5 лютага – у 19.00
6 лютага – у 21.00
Кошт білета – 20 000-30 000 рублёў.

Экшн, прыгоды **"Геракл: Пачатак легенды"**, 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
31 студзеня, 1 лютага – у 18.30
2, 3 лютага – у 21.00
4 лютага – у 18.30
5 лютага – у 21.00
6 лютага – у 18.30
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Тарзан"**, 3D (Германія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
31 студзеня – у 16.30
1 лютага – у 14.30
5 лютага – у 17.00
Кошт білета – 25 000-30 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Іван Царэвіч і Шэры Воўк"**, 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
2 лютага – у 17.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Надзвычайныя прыгоды Зіны і Кешы"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
1, 2 лютага – у 15.30
Кошт білета –15 000 рублёў.

Камедыя **"10 крокаў да поспеху"** (ЗША, 2006, для гледачоў, якім за 16 год)
31 студзеня – у 17.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.



Баявік **"Бяжы"** (ЗША, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
31 студзеня – у 19.30, 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя **"Дзяўчына з Манака"** (Францыя, 2008, для гледачоў, якім за 16 год)
1 лютага – у 17.30, 19.30
2 лютага – у 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Баявік **"Няўлоўныя"** (ЗША, 2012, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
1 лютага – у 21.30
2 лютага – у 17.30, 19.30
3 лютага – у 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама **"Пяшчота"** (Францыя, 2011, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
4, 5 лютага – у 21.30
6 лютага – у 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма **"Спадчыннікі"** (Расія, 2008, для гледачоў, якім за 16 год)
4, 5 лютага – у 19.30
6 лютага – у 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на студзень-люты

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях) Марсэль Берк'е-Мерыньє, Анатоль Курбскі
31 студзеня – у 19.00

**"Не такі, як усе"** (камедыя ў 2-х дзеях) Уладзімір Рудаў
4 лютага – у 17.00

**"Всё будет хороШОУ"** (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне) Алег Чэчанеў
7 лютага – у 11.30

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

ГАРАСКОП
(31 СТУДЗЕНЯ - 7 ЛЮТАГА)



**Авен.** Найбольш важнай стане матэрыяльная сфера жыцця. Вы будзеце шукаць новыя метады абагачэння. Магчыма шмат сустрэч, узнаўленне старых сувязяў, і ўсё для таго, каб стаць больш упэўненымі ў заўтрашнім дні.



**Цялец.** Нарэшце вы дачакаліся перыяду фінансавага поспеху. Такога ўжо даўно не было. Ёсць чым ганарыцца.



**Блізняты.** Вам захочацца шукаць пераменаў і прыгодаў. Вы стаміліся быць здабытчыкам і хочаце свабоды. Перыяд, калі пераварочваюцца ўсе пачуцці, так што вас чакаюць радыкальныя перамены на любоўным фронце.



**Рак.** Ключом для разумення ўласнай асобы ў гэты час будзе ваш партнёр, адносіны з якім могуць стаць вельмі глыбокімі.



**Леў.** Вы можаце разлічваць на далёкія падарожжы, падтрымку ўплывовых людзей і выгады ад супрацоўніцтва з замежнікамі.



**Дзевы.** Вы атрымаеце ўласнае шчасце, нават калі яно ёсць і новае вы не заказвалі. Каханне вам забяспечанае. А яшчэ нядрэнна было б перагледзець мэтазгоднасць намечаных укладанняў і сродкаў, пралічыць магчымы прыбытак і верагодныя расходы.



**Шалі.** Настальгія можа прывесці да спробаў схаваць свой боль у алкаголі. Будзьце аптымістам. У небяспечныя перыяды можа прыйсці нечаканая дапамога і падтрымка.



**Скарпіён.** Вы можаце паспяхова падняцца па службовай лесвіцы і дасягнуць жаданага. Вас будуць песціць увагай вышэйстаячыя начальнікі.



**Стралец.** Магчыма знаёмства з цікавымі людзьмі, можна сустрэць сваю другую палавіну. Замужнія і жанатыя акунуцца ў свет кахання і рамантыкі.



**Казярог.** Спакойна, без эмоцый патлумачце сваім дамашнім, што вам неабходна трохі вольнага часу для сябе асабіста.



**Вадалей.** Шчасце побач. Трэба толькі займацца сваім уласным жыццём. Галоўнае, ідзіце наперад, не азірайцеся. Толькі так можна дасягнуць поспеху.



**Рыбы.** Вы можаце заключыць прэстыжны шлюб, дзякуючы якому вы зможаце раз'язджаць па ўсім свеце і расшыраць свой кругагляд.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

**Камент-эксперт Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**1 лютага, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | -18 / -15 | | -14 / -11 | | -13 / -10 | | -14 / -10 | |
| | 758 | ↖ 6 | 753 | ↑ 10 | 752 | ↑ 7 | 751 | ↑ 5 |
| **Вільня** | -16 / -10 | | -13 / -7 | | -11 / -5 | | -12 / -6 | |
| | 764 | ↖ 7 | 758 | ↑ 9 | 758 | ↑ 6 | 756 | ↑ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.59
Захад 17.52
Даўжыня дня 8.53

Усход 9.14
Захад 20.34
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- На Цімафея-паўзімніка (4 лютага) пачынаюцца мяцеліцы. Дзень Аксінні-паўзімніцы (6 лютага) лічыўся пераломам зімы. "Якая Аксіння – такая і вясна".

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці саромеецеся вы гаварыць на роднай мове?



**Аляксандр Пыцько, загадчык літаратурнай часткі драмтэатра:**

– Я размаўляю па-беларуску па патрэбе. У нас тры мовы: літаратурная, тарашкевіца і, уласна, трасянка. Можна і пакрыўдзіць чалавека, сказаўшы: "Пап'ём чайку". Можа, ён п'е толькі гарбату?



**Элшан Дамірчыеў, прадпрымальнік:**

– На сваёй роднай, азербайджанскай, мове, я размаўляю толькі дома са сваёй сям'ёй. Але не саромеюся. Калі ж мяне пытаюцца аб нечым на беларускай мове, я напружуся, але мову ўспомню і адкажу толькі па-беларуску.



**Мікалай Грыгар'ян, гаспадар майстэрні па рамонце абутку:**

– За 30 гадоў, што жыву тут, навучыўся думаць і па-беларуску, і па-руску. Дзеці ў школе вывучалі беларускую мову, хоць гэта было па жаданні. Дачка, армянка, жыве ў Пецярбургу, калі запрасілі на канферэнцыю ў Баранавічы, чытала даклад па-беларуску.



**Фыёнг Хоанг Кім, прадпрымальніца:**

– Дома размаўляем на в'етнамскай мове. А мой сын ходзіць у шостую гімназію і паспяхова вывучае беларускую мову, рускую і англійскую.



**Аляксандр Рамановіч, начальнік аддзела культуры:**

– Вядома, не саромеюся. Пры любой магчымасці пераходжу на матчыну мову. Калі ж сустракаюся з калегамі з іншых краін, то размаўляю па-руску. А дома толькі па-беларуску, мы ж усе з вёскі.

**Падрыхтавалі Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **З-за чаго ў мінулым сезоне "Вілія" з Вілейкі заняла апошняе месца ў першай лізе чэмпіяната Мінскай вобласці па футболе? Што чакае ў новым сезоне? Чым адметныя вілейскія аматары футбола?**



Рэгіянальная газета. Rh.by

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 5 (979) 31.01.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 79. Падпісана ў друк у 10.00 30.01.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.